



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

14 снежня 2018 года №50 (1233)




# Хто стане Асобай года-2018?

старонка 2

Калаж «РГ».

ISSN 1991–7155




Адсканўйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/






Асобамі года-2017 сталі Алена і Ігар Крэйнісы з Валожыншчыны (справа). На здымку іх узнагароджвае галоўны рэдактар «Рэгіянальнай газеты» Аляксандр Манцэвіч.

Фота з архіва «РГ».

## У Вілейцы — новы начальнік крымінальнай міліцыі. Раней ён працаваў у Маладзечне

ВІЛЕЙКА

Загадам УУС Мінаблвыканкама ад 7 снежня на гэту пасаду прызначылі **Дзмітрыя Сухоцкага**.

Дзмітры Сухоцкі – маёр міліцыі. Раней ён быў начальнікам аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні людзьмі Маладзечанскага РАУС.

Ранейшы начальнік **Аляксандр Лыско** пайшоў на заслужаны адпачынак.

Як паведамілі «Рэгіянальнай газеце» ў аддзяленні па наркакантролі і супрацьдзеянні людзьмі Маладзечанскага РАУС, на пасаду начальніка аддзялення пакуль нікога не прызначылі. Пытанне павінны вырашыць цягам тыдня.

## Уладзімір Някляеў: Прэмія Францішка Аляховіча сімвалізуе для мяне не турму, а свабоду

СМАРГОНЬ

Днямі беларускі ПЭН-цэнтр абвясціў лаўрэатаў прэміі імя **Францішка Аляховіча**. Сярод лаўрэатаў прэміі – ураджэнец Смаргоні, паэт і грамадскі дзеяч **Уладзімір Някляеў**.

Літаратурную прэмію імя Францішка Аляховіча Беларускі ПЭН-цэнтр заснаваў у 2013 годзе.

Яе ўручаюць за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні. Пераможца вызначаецца 10 снежня, у Міжнародны дзень правоў чалавека.

Мы звязаліся з Уладзімірам Пракопавічам і папрасілі яго распавесці, што значыць для творцы гэта ўзнагарода.

– З улікам таго, што за ёй стаіць (а стаіць за ёй не толькі літаратурны тэкст, але і турэмны досвед), прэмія імя Францішка Аляховіча, вядома, своеасаблівая. Найперш тым, што і заснавальнікі, і лаўрэаты марацъ пра той час, калі яе не будзе за што і не будзе каму даваць. Калі людзей не будуць зняволваць за іх перакананні, за рэалізацыю замацаванага ў Канстытуцыі права выяўляць сваю грамадзянскую пазіцыю, калі не стане ў нас палітвязняў. Такім чынам, гэта прэмія, хоць яна і называецца «турэмнай», сімвалізуе, ва ўсякім разе для мяне, не турму, а свабоду. Волю, да якой пісаў я з турмы лісты, што і сталі кнігай «Лісты да Волі», адзначанай прэміяй Аляховіча, – распавёў карэспандэнту нашай газеты Уладзімір Някляеў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На абласную ёлку ў Маладзечна запросяць каля 800 дзяцей

МАЛАДЗЕЧНА

Свята стане галоўнай падзеяй абласной акцыі «Нашы дзеці».

28 снежня арганізатары падрыхтуюць навагоднее прадстаўленне ў Палацы культуры.

На свята запросяць больш за 800 навучэнцаў, сярод якіх дзеці-сіроты, дзеці з інваліднасцю, школьнікі – лепшыя ў спорце і вучобе, валанцёры і лідары.

**Аддзел інфармацыі.**

# Хто стане Асобай года-2018?

**Традыцыйна ўсе мы ў снежні падводзім вынікі года. «Рэгіянальная газета» вызначае тых, хто найбольш адзначыўся ў розных галінах.**

32 імені мы прапануем вам, дарагія чытачы. І каб абраць самыя яркія, і каб успомніць, чым запомніцца 2018 год.

Гэты спіс адкрыты. Да 19 снежня вы можаце прапанаваць сваю кандыдатуру – каго трэба дадаць у спіс прэтэндэнтаў у Асобы года-2018. Напішыце ліст пра гэта на электронную пошту regionnews@rh.by ці паведаміце па нумары **(8-0176) 53-78-05.**

20 снежня мы вывесім галасаванне за прэтэндэнтаў на нашым сайце **rh.by**. Па выніках галасавання вызначыцца намінацыя «Прыз глядацкіх сімпатый». Пераможцаў астатніх намінацый вызначыць калектыў рэдакцыі.

Галасаванне будзе закрытае 2 студзеня. У першым нумары газеты за 2019 года, за 4 студзеня, вы даведаецеся імя пераможцаў акцыі.

### Спіс прэтэндэнтаў на ўзнагароду «Асоба года-2018»

МАЛАДЗЕЧНА

**Кацярына Шытыка** – за актыўную падтрымку вілейскіх актывістаў у змаганні за паляпшэнне ўмоў анкадыспансера.

**Віталь Качаткоў** – за нязгасную настойлівасць у дасягненні сваіх мэтаў і надзвычай актыўную пазіцыю па навучанні шахматам і дзяцей, і дарослых.

**Віктар Голуб**, які дамогся прыборкі магілак салдат Першай сусветнай у раёне станцыі Пруды.

Калектыў Мінскага абласнога драматычнага тэатра за прэм'еру спектакля «Час сэканд-хэнд» па матывах кнігі Святланы Алексіевіч.

**Уладзімір Садоўскі** – за захаванне памяці пра Гелянова.

**Юры Будо** – за стварэнне пакоя гісторыі судова-экспертнай дзейнасці.

**Лідзія Князева** – за старт праекта «Крок насустрач», накіраваны на падтрымку людзей, што перажылі вайну.

**Аляксандра Ярмоліна**, якая стала чэмпіёнкай Еўропы па ўшу.

**Ягор Мышук** – за моц.

**Васіль Лябецкі** – за тое, што не спыняецца.

**Валянціна Сідоркіна і Ганна Холад** – за развіццё крэатыўнасці Маладзечна.

**Дзмітры Асанаў**, які стаў чэмпіёнам па боксе сярод студэнтаў.

**Іван Дурэйка** – за тое, што даглядае найстарэйшы вяз у Беларусі.

**Вольга Шчурская** – за асэнсаванае выхаванне дзесяці дзяцей.

ВІЛЕЙКА

**Жанна Вярбіцкая** – за жыццёвую сілу.

**Эдуард Мацюшонак** – за захаванне памяці ў карцінах.

**Пётр Лісоўскі** – за ініцыятыву адкрыцця дома для састарэлых у Латыгалі.

**Іван Літвіновіч**, які стаў чэмпіёнам Еўропы па скачках на батуце сярод юніёраў.

**Алесь Раткевіч** – за выданне кнігі «Невядомая гісторыя майго краю».

**Дзмітры Гарланаў** – за прарыўны і еўрапейскі падыход да працы.

**Воля Трубач** – за адраджэнне спадчыны.

**Максім Ціханаў** – за актыўную грамадскую пазіцыю.

**Міхаіл Міхалевіч** – за выданне кнігі «Пра Вяллю, рыбу і рыбалку».

**Алег Куралесаў** – за стварэнне атмасфернай пляцоўкі ў Навасадах.

**Вольга Шляпо** – за новы ўзровень працы жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

ВАЛОЖЫН

**Васіль Грынь** – за стварэнне пляцоўкі, якая захоўвае беларускія традыцыі.

СМАРГОНЬ

**Эдзіта Бранцэвіч** – за выхаванне беларускасці ў выхаванцаў дзіцячага садка і за тое, што вучыць гэтаму іншых.

**Глеб Лабадзенка** – за ініцыятыву збору камянёў для Крэўскага замка.

АШМЯНЫ

**Настасся Саванец**, якая атрымала за цэнтралізаванае тэставанне 100, 100 і 97 балаў.

АСТРАВЕЦ

**Аляксандр Лабачэўскі**, які стаў Астравецкім асілкам.

МЯДЗЕЛ

**Юрась Камандзірчык** – за захаванне беларускасці ў драўляных скульптурах.

**Каманда бізнес-інкубатара** ў Камарове – за тое, што дапамагаюць мары ператвараць у бізнес.

### Кампанія Асобаў года расце

За 2017 год узнагароды атрымалі некалькі чалавек. Галоўны тытул Асобы года атрымалі **Алена і Ігар Крэйнісы** з Валожыншчыны, якія стварылі прытулак для жывёл, знайшлі сталае фінансаванне для яго дзейнасці, уладкоўваюць гадаванцаў у розныя гарады краіны і за мяжу, а таксама прапануюць паслугі гасцініцы для сабак.

У намінацыі «Натхненне года» перамог мастак **Базіната**. Менавіта ён зрабіў галерэю на сметніцы на Парашках падчас Нацыянальнага фестывалю.

Намінацыю «Учынак года» атрымаў **Аляксандр Дарашэвіч** з Астравеччыны, які рэгулярна арганізоўвае прыборкі на Сарачанскіх азёрах.

«Прыз глядацкіх сімпатый» атрымала пераможца галасавання **Жанна Гардынец** з Вілейкі. Тая самая, што змагалася за паляпшэнне ўмоў анкадыспансера.

У 2016 годзе Асобай года стала арганізатар «Жывой бібліятэкі» ў Маладзечне **Юлія Мароз**. Рэдакцыя вырашыла заснаваць дадаткова дзве намінацыі – «Натхненне года», якую атрымаў нежывушчы спявак **Данік Савеня**, і «Учынак года», якім назвалі **Адама Мальдзіса**.

Асобай года-2015 стаў вілейскі краязнаўца **Дзяніс Канецкі**.

Асобай года-2014 стаў на той момант вучань 11 класа з Маладзечна **Уладзімір Грахоўскі**, які выратаваў дзіцяці, што танула.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота зафіксаванае Дзмітрыем ІВАШАНКАМ.

Дзмітры побач з фрэзерным станком, які набыў на выйграныя 5000 еўра.

# «У Беларусі прадаць драўляную машынку за 20 рублёў нерэальна»

## Прадпрымальнік з Астраўца выйграў грант ад ЕС

АСТРАВЕЦ

**Дзмітры Івашанка з Астраўца робіць дзіцячыя развіццёвыя цацкі. Дзякуючы бізнес-інкубатару ў Камарове ён атрымаў магчымасць для спраўджвання жаданняў.**

У Дзмітрыя ёсць сталярны цэх, дзе раней мужчына рабіў мэблю. Даход ад продажу быў мінімальны, а працаваць даводзілася шмат. Пачаў шукаць магчымасці для прасоўвання прадпрымальніцкіх здольнасцяў.

Па парадзе сябра падаў заяўку на ўдзел у школе вясковага бізнесу, якая працуе ў межах бізнес-інкубатара ў Камарове і трапіў у чацверты набор. Сярод 90 ахвотных абралі 16. Дзмітры прыйшоў, каб навучыцца прадаваць мэблю. Але пасля размоў з інструктарам зразумеў – дрэнны варыянт для бізнесу.

Табурэткі ён прадаваў па 50 рублёў за штуку. І думаў, што зарабляе. Але на першай жа сесіі з інструктарам падлічыў, колькі каштуе табурэтка сапраўды. Аказалася, каб зарабляць на прадукцыі, адну табурэтку варта прапаноўваць за дзвесце. А каму я прадам за такія грошы, – смяецца Дзмітры.

### Разлічвае на міжнародны рынак

– Драўляную машынку ў Беларусі магу прадаць мінімум за 20 рублёў, каб гэта было мне выгадна. У Германіі такая ж каштуе 40 еўра. У Амерыцы – 40 долараў.

Дзмітры кажа, што навучанне ў школе на 70-80% змяніла яго ўяўленне пра прадпрымальніцтва.

– Школа стала адкрыццём для мяне, удзячны арганізатарам **Эдуарду** і **Але Вайцяховічам**, якія прывезлі да нас вядучых прадпрымальнікаў. Самае класнае, што вучылі не прафесары, якія ведаюць тэорыю, а сапраўдныя бізнесмены. Інфармацыя, якую атрымаў, абавязкова дапаможа ў будучыні.

### Выйграў 5000 еўра

Па выніках школы мужчына прадставіў свой бізнес-праект і выйграў грант ад ЕС у памеры 5000 еўра. На яго набыў фрэзерны станок з лічбавым праграмным кіраваннем.

Атрымаў станок 1 снежня, хаця планаваў раней, каб пачаць прадаваць цацкі да Новага года. Нават брэнд прыдумаў – «Тата Дзіма». Пакуль вучыцца працаваць на станку.

Падчас працы ў сталярным цэху ён вырабляў цацкі для сваіх дзяцей. Адна справа, калі робіш не на продаж, кажа Дзмітры. Іншая – пусціць выраб на паток. Уручную самалёцік робіцца гадзіну. На станку – 30 секунд.

### Развіваць дзяцей можа любая рэч

– Першапачаткова мая ідэя – драўляны канструктар. Пакупнік атрымае набор з драўлянымі запчасткамі для будучай цацкі, клей, пэндзаль. Дзіця зможа расфарбаваць і склеіць цацку, як захоча. Разбірацца выраб не будзе.

Мужчына ўпэўнены, развіваць дзіця можа ўвогуле любая рэч, якая трапіць у рукі. Аднойчы яго сыны нашкодзілі. Адзін трапіў у кут з абуткам. Праз пяць хвілін адны тапкі стаялі салдацікамі, іншыя – танкамі.

– У мяне тры сыны. Па іх бачу, чым прасцей цацка, тым лепш. Колькі было машынак на пульце, не расказаць. Кожны лічыць абавязкам яе падарыць. Але ўвагі дзяцей хапае на паўгадзіны. Драўляныя кубікі, якія я зрабіў два гады таму, да гэтага ў ходзе. Хаця і пабітыя ўжо.

### Як робіць цацкі

Дзмітры робіць цацкі з рознага дрэва. Добра падыходзіць клён – валакністы і мяккі, бук, ліпа. Сасна і елка надзвычай мяккія, расказвае Дзмітры. Дуб добры для мэблі, але цацкі з яго рабіць нельга. Пры пашкоджанні часта ўзнікаюць вострыя сколы. Хоча зрабіць цацкі з фруктовых дрэў.

Як будзе выглядаць выраб, пакуль прыдумвае сам. А ў будучым колер і форму цацкі будзе падбіраць прафесійны дызайнер. Вырабы фарбуе сам нямецкай сертыфікаванай фарбай на воднай аснове.

**Таццяна КАСЬЯН.**

*Артыкул падрыхтаваны ў межах сумеснага праекта з EU Neighbours East «Свой край: партнэры». Погляды, выяўленыя ў тэксце, належаць выключна аўтару артыкула.*

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | 5.12 | 12.12 |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,34 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,50 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,80** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **13,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,90** |
| Капуста, 1 кг | 0,75 | **0,90** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,85** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,30** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,85 | **0,95** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 4,90 | **4,00** |
| Ананас, 1 кг | – | **6,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,20 | **3,40** |
| Бананы, 1 кг | – | **1,90** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,00 | **3,00** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **2,50** |
| Хурма, 1 кг | 2,40 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,39 | **1,39** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |



**ЛІЧБА НУМАРА**

1 146
ёлачных базараў будуць працаваць сёлета ў Беларусі

Паводле БелТа

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.12 | 13.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1350 | **2.1270** |
| Еўра | 2.4187 | **2.4085** |
| Злоты, 10 | 5.6431 | **5.6073** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1961 | **3.2009** |
| Грыўня, 100 | 7.6315 | **7.6360** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **5.12** | **12.12** |
| Еўра | 2.4080/2.4280 | **2.3980/2.4200** |
| Долар ЗША | 2.1240/2.1420 | **2.1180/2.1350** |

## У чыгуначным кантэйнеры ў Маладзечне знайшлі кантрабандную вопратку і абутак

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікі Мінскай рэгіянальнай мытні спынілі незаконнае перамяшчэнне ў чыгуначным кантэйнеры на тэрыторыі ЕС новых рэчаў.

Новае адзенне і абутак везлі чыгункай праз пункт мытнага афармлення «Маладзечна». У чыгуначным кантэйнеры, паводле дакументаў, з Літвы перавозілі былыя ва ўжыванні адзенне і абутак, а таксама пражу з бавоўны агульнай вагой больш за 13 тон.

Аднак пры мытным даглядзе ўстанавілі, што ў кантэйнеры, акрамя заяўленых тавараў, знаходзіцца амаль пяць тысяч новага адзення і абутку. Кошт незадэклараваных рэчаў – больш за 140 тысяч. Незаконны тавар канфіскавалі да рашэння суда. Мінская рэгіянальная мытня праводзіць праверку.

**Паводле сайта Дзяржаўнай мытні Рэспублікі Беларусь.**

## На Валожыншчыне аўтобус насмерць збіў жанчыну

ВАЛОЖЫН

5 снежня ў 00:30 на 53 кіламетры аўтадарогі Мінск–Гродна ў Валожынскім раёне 58-гадовы кіроўца, грамадзянін Украіны, рухаючыся на рэйсавым аўтобусе «Неаплан» у напрамку Мінска, на неасветленым участку дарогі наехаў на 35-гадовую мінчанку.

Ад атрыманых траўмаў пацярпелая памерла на месцы ДТЗ.

Рэйсавы аўтобус выехаў з Вільні і рухаўся па маршруце Вільня–Кіеў. Кіроўца цвярозы, прышпілены. Другі кіроўца ў час аварыі адпачываў. Пешаход быў без флікера.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## На Мядзельшчыне гарэў дом: жонка – у бальніцы, муж не пацярпеў

МЯДЗЕЛ

Пажар здарыўся 4 снежня каля 12 гадзін дня ў вёсцы Пруднікі Крывіцкага сельсавета.

Паведамілі, што ў вёсцы гарыць жылы дом па Цэнтральнай вуліцы, 18.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, з дома ішоў дым.

Калі пачаўся пажар, гаспадары былі дома. Да прыезду спецыялістаў яны самі спрабавалі яго патушыць. У выніку 39-гадовая жанчына апякла дзесяць працэнтаў цела.

З апёкамі першай і другой ступеняў гаспадыню забралі ў бальніцу. Яе муж не пацярпеў.

– Папярэдняя прычына пажару – парушэнне эксплуатацыі газавага абсталявання, – расказала нашай газеце інспектар групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага РАНС **Ірына Карапецян**.

Па яе словах, у доме быў пажарны апавяшчальнік. Агонь знішчыў частку даху, знутры выгарэлі памяшканні кацельні і кухні.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Жыхар Ашмянскага раёна паехаў на працу і знік

АШМЯНЫ

Знік жыхар вёскі Даргішкі Ашмянскага раёна **Іван Сусніл** 1984 года нараджэння. Летась у маі ён з’ехаў на працу ў Санкт-Пецярбург і ад 6 мая гэтага года месцазнаходжанне мужчыны невядомае.



Прыкметы: на выгляд 35-40 гадоў, рост каля 170-175 сантыметраў, сярэдняга целаскладу, твар круглы, вочы блакітныя.

Калі вам што-небудзь вядома пра месцазнаходжанне ці лёс Івана Сусніла, просьба паведаміць у Ашмянскі РАУС па **8 (01593) 4 44 42** ці Ашмянскі РАСК – **8 (01593) 7 12 54**.

**Ашмянскі раённы аддзел Следчага камітэта.**





Фота workscan.ru.

Перш чым браць крэдыт, разлічыце свае магчымасці, раяць у банку.

# За незаплачаныя 13 долараў налічылі пеню ў 4000 долараў

## Чым скончылася гісторыя маладзечанца

МАЛАДЗЕЧНА

**Жыхару Маладзечна, які недаплаціў па крэдыце 13 долараў, а праз шэсць гадоў атрымаў рахунак амаль на 4000 долараў, банк спісаў запазычанасць да 117 долараў.**

Бакі заключылі пагадненне, якому папярэднічала судовае разбіральніцтва. Мужчыну трэба выплаціць грошы банку на працягу месяца з моманту зацвярджэння пагаднення.

Раней мужчына распавядаў, што ў 2012 годзе пагасіў запазычанасць па крэдыце, які браў у 2008 годзе на аўтамабіль. У банку тады, паводле яго слоў, адказалі, што ён цалкам разлічыўся па пазыцы. А сёлета яму прыйшло паведамленне, што павінны амаль 4000 долараў. У банку спісалі запазычанасць да 593 долараў і папярэдзілі, што пры нявыплаце гэтай сумы будуць вымушаныя прыняць меры прымусовага спагнання. Нявыплата можа прывесці да абмежавання на выезд з краіны і на кіраванне аўтатранспартам, а таксама на ўнясенне дадзеных у сістэму «Крэдытнае бюро».

Доўг на суму каля чатырох тысяч долараў паўстаў з-за несвоечасовага пагашэння крэдыту кліентам на працягу некалькіх гадоў, адзначаюць у банку. У Белаграпрамбанку тлумачаць, што ў 2010 годзе суд Маладзечанскага раёна вынес рашэнне аб спагнанні запазычанасці з жыхара Маладзечна і яго паручыцеля.

– Кліент яшчэ ў 2012 годзе добраахвотна пагасіў запазычанасць у адпаведнасці з рашэннем суда і напісаў у банк заяву аб пераразліку налічаных штрафных санкцый. Разам з тым да таго часу ў яго заставалася непагашанай запазычанасць па пратэрмінаваных працэнтах у памеры 12,85 долара і па штрафных санкцыях у памеры 3 711,79 долара, – удакладняюць прадстаўнікі банка. – Пасля банкам у адрас крэдытаатрымальніка неаднаразова накіроўваліся лісты аб пакінутай запазычанасці. У 2018-м, калі кліент, які да таго часу змяніў свой тэлефонны нумар, быў знойдзены, яму было прапанавана пагасіць запазычанасць па працэнтах і напісаць заяву на памяншэнне альбо спісанне пені ў памеры 3 950,48 долара, якая налічвалася ў адпаведнасці з заключанай з банкам крэдытнай дамовай.

14 сакавіка гэтага года мужчына аплаціў 13 долараў і напісаў заяву на спісанне пені.

– Заяву разгледзеў калегіяльны орган Белаграпрамбанка, які часткова задаволіў просьбу маладзечанца і паменшыў суму няўстойкі да 593 долараў. Далей супрацоўнікі банка прапанавалі кліенту паўторна напісаць заяву аб спісанні пені з прыкладаннем дакументаў, якія пацвярджаюць яго складанае матэрыяльнае становішча. Аднак ён адпаведную заяву не напісаў.

У банку адзначаюць, што пасля заявы маладзечанца аб тым, што банк наўмысна ўтойваў ад кліента ўзніклую запазычанасць, была праведзеная праверка.

– Аказалася, што кліент проста не заплаціў своечасова доўг па працэнтах і штрафных санкцыях па крэдытнай дамове, – удакладняюць у банку.

Сёлета 25 чэрвеня суд Маладзечанскага раёна выраўшыў спагнаць з кліента банка і яго паручыцеля на карысць банка 593 долары і дзяржпошліну ў 59,18 рубля.

– На сёння паміж бакамі падпісанае мірнае пагадненне, па ўмовах якога сума доўгу зніжаная да 117 долараў. Мужчыну трэба выплаціць гэтыя грошы банку на працягу месяца з моманту зацвярджэння мірнага пагаднення, – удакладнілі ў банку.

– Прыношу свае прабачэнні Белаграпрамбанку і ўсім, каго я ўвёў у зман, – кажа жыхар Маладзечна.

**Паводле tut.by.**

## Спецыялісты распавялі пра абстаноўку на вадаёмах рэгіёна

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ
СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

**У рэгіёне па-ранейшаму дзейнічае забарона выхаду на лёд. Аднак рыбакі не перастаюць хваліцца ў сацсетках сваімі трафеямі.**

– На Вілейскім вадасховішчы лёд пяць-шэсць сантыметраў. Шмат дзе на лёдзе стаіць вада. Выходзіць можна тады, калі ледзяное покрыва ад сямі сантыметраў, а лепш ад дзесяці, – распавялі ў Вілейскай выратавальнай станцыі.

Па словах вілейскіх спецыялістаў, дзявятага снежня на Вілейскім вадасховішчы рыбака-парушальніка папярэдзілі і прагналі з лёду. На новай лодцы-піранні суправаджалі таго да самага берага.

Начальнік вадалазна-выратавальнай службы Гродзенскай абласной арганізацыі Асвод **Юры Касцевіч** распавёў карэспандэнту, што на вадаёмах Ашмянаў, Астраўца і Смаргоні сітуацыя спакойная. Рыбакоў-парушальнікаў няма, адпаведна няма і здарэнняў.

Самы тоўсты лёд на вадаёмах Ашмянаў – 10-12 сантыметраў. Аднак ён месцамі падмыты, месцамі слаісца, бо на вуліцы адліга. Таму на такі лёд лепш не выходзіць. На вадаёмах Астравеччыны і Смаргоншчыны лёд сем-восем сантыметраў.

Начальнік выратавальнай станцыі Мядзела **Дзмітры Дамшэль** распавёў, што ў апошнія даждлівыя дні лёд на Мястры патанеў. Цяпер ён каля чатырох сантыметраў. На возеры ж Баторына лёд даволі моцны – сем сантыметраў. На адзіночную рыбалку можна выходзіць. Каб ісці групай, варта дачакацца 12 сантыметраў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота look.com.ua

# Як даглядаць аўто ўзімку?

**Нечакана прыйшла зіма? Не можаш завесці машыну? Баішся выехаць на трасу? Спецыяльна для кіроўцаў публікуем зімовы параднік.**

Піша Аляксей ПАРХІМОВІЧ.

### Скрабок – не заўжды добра

Нельга саскрабаць снег скрабком. Вясной акажацца, што ўся машына падрапаная. І мы нават не ўспомнім, што стала прычынай.

Найлепш карыстацца шчоткай з мяккім шчаціннем. Яна змяце снег, не пашкодзіўшы фарбу. Але, на жаль, не пазбавіць ад прымерзлага снегу. Адзіным спосабам, каб ад яго пазбавіцца, будзе паркоўка ў месцы з тэмпературай вышэй за 0 градусаў.

Трэба хаця б раз на нейкі час запаркаваць аўто ў цёплым месцы. Тады ў нас будзе гарантыя, што растане ўвесь снег і лёд. Ездзіць жа з такой «снегавой крыгай» усю зіму не вельмі здарова для нашага аўтамабіля. Калі ж да таго мы маем новую машыну, павінны вельмі ўважліва ставіцца да прымерзлага снегу, бо ён дрэнна ўплывае на новае пакрыццё.

Толькі пазбягайце кухонных шчотак, бо яны вельмі цвёрдыя і падрапаюць ваш аўтамабіль.

Акуратнае змятанне снегу таксама вельмі важнае. Мы павінны пазбягаць «язды танкіста» – калі на лабавым шкле праціраем сабе толькі маленькае акенца-амбразурку, праз якую трэба назіраць за ўсёй дарогай.

### Што рабіць з прымерзлымі дзвярыма?

Замкі трэба змазаць спецыяльнай алівай для замкоў, вадкай або ў выглядзе спрэю-аэразолю. Хаця б два разы на год: восенню і вясной. Але калі раптам замкі прымерзлі, скарыстайцеся размарожвальнікам. Каштуюць такія рэчы не вельмі дорага. Тым больш, што за замену зламанага ключыка ці замка вы заплаціце ў разы больш. Скупы плаціць двойчы.

Трэба таксама памятаць, каб пасля карыстання размарожвальнікам змазаць замок алівай.



### WD-40? Дзесяць разоў падумайце

Памятайце, размарожвальнік толькі аднаразова вырашае праблему, да таго ж ён разбурае замок. Не рэкамендуецца таксама карыстацца такімі вадкасцямі, як WD-40 – вэдэшкамі. Могуць дапамагчы, але, апрача вільгаці, выцясняюць таксама змазку, пакідаючы замок без абароны.

Калі заліць у заржавелыя лічынкі замкоў WD-40 (дадаткова не змазаўшы іх), праз некаторы час выявіцца, што замкі сталі працаваць яшчэ горш, бо WD-40 змыла змазку ў лічынцы замка. Гэта адбываецца з-за таго, што WD-40 забірае вільгаць з атмасферы і пакідае яе ўнутры механізма, пры гэтым карозія на такіх дэталях развіваецца яшчэ хутчэй, а сама вадкасць WD-40 выпараецца.

Гумкі ўшчыльнення апрацоўваем аэразолем, вадкасцю або пастай на базе сіліконy. Прэпарат трэба наносіць на папярэдне вычышчаныя і высушаныя гумкі. Гумка робіцца больш эластычнай і не ліпне да металу.

Гэту аперацыю трэба праводзіць кожныя два-тры тыдні. Бо калі гумкі ўсё ж прымерзнуць, адчыняючы дзверы можна іх папросту парваць. У выпадку прымярзання паспрабуйце падважыць, прыўзняць дзверы і паспрабаваць папырскаць у шчыліну размарожвальнікам для шкла. Калі атрымаецца адчыніць дзверы, гумку трэба адмыць і змазаць сіліконавым прэпаратам.

### Дворнікі і шкло

Спроба ўключыць прымерзлыя дворнікі можа закончыцца іх паломкай, пацёртасцю шкла або паломкай рухавічка. Не трэба абмяжоўвацца ачысткай маленькага кавалка шыбы, трэба размарозіць усё лабавое шкло. Таксама памятаем пра астатнія. Найлепш ачышчаць іх спецыяльным размарожвальнікам. Можна таксама скрабком, але старайцеся не падрапаць шкло. Каб гэту рызыку мінімізаваць, утрымлівайце шкло ў чысціні, бо прымерзлыя пясчынкі могуць пашкодзіць шкло ў час ачысткі.

Не рэкамендуем паліваць замерзлую шыбу гарачай вадой. Такая экспрэс-размарозка амаль гарантавана скончыцца катастрофай: шкло трэсне. Такая ж небяспека можа чакаць, калі ў вялікія маразы раптоўна накіраваць моцны і гарачы струмень паветра на прамерзлае шкло. У маразы лепш скіраваць абдзіманне на шкло адразу пасля таго, як заведзяце рухавік. Паступовае награванне не прывядзе да непрыемных наступстваў.

Нават тады, калі на шыбы ўжо дзьме цёплае паветра, усё адно трэба праверыць, ці не прымерзлі дворнікі. •




# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• DACIA DUSTER. 2010 г.в., 1,6 газ-бензін, чорны, 2 камплекты гумы, торг пры аглядзе. Т. (8-029) 5060612.*

• NISAN PRIMERA, 1997 г.в.,2,0Д. Т. (8-029) 2241522.

• Грузавы аўтамабіль АВІЯ А-31; 1988 г.в., можна пад тэнт, у рабочым стане. Т. (8-029) 5062340.

• Кіа-Сарента, 2005 г.в., прабег 290 000 км, 15 000 руб. Т. (8-029) 7639029.*

• Мазда-Прэмасі, 2000 г.в., 1,8 бензін. У добрым стане. Т. (8-029) 5689198.*

• Мікрааўтобусы МВ 100, 1993 г.в.,; грузапасажырскі, 5 месцаў, 2,4 дызель; МВ 307, дызель, 1988 г.в.; грузавы (па запчастках). Т. МТС (8-029) 2649526, Вэлком (8-044) 4655299.

• Опель-Норса, 2007 г.в., 1,2 бензін, добры стан. Цана дагаворная. Т. МТС (8-029) 2517042.*

• Рэно-19, 1992 г.в., 1,4 л., 1200 руб, торг. Т. (8-029) 5069521.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### МЯНЯЮ

• Пасат-3 на Жыгулі. Альбо прадам. Т. Вэлком (8-044) 7125657.*

• Chrysler Neon, 1995 г.в., кожны дзень на хаду, ёсць нюансы, абмяняю на іншы аўто або прадам. 2 600 руб., торг. Т. (8-033) 3668181, (8-025) 7639296.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Драздовіча, 4. Т. (8-029) 3809203.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агульная плошча 50 кв. м. Т. (8-029) 2716509.*

• 3-павярховы жылы дом у цэнтры Вілейкі. Укамплектаваны мэбляй, трэнажорны комплекс «Кетлер». 3 гаражы. Жылая плошча 170 кв. м. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5058543.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на другім паверсе па вул. Вольнай альбо абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• Гараж у цэнтры Маладзечна у ГК №1, магчымы абмен на аўто. Т. (8-029) 6128021.*

• Дом жылы ў в. Карвелі. Побач прыпынак гарадскога аўтобуса. Т. (8-033) 3776450.

• Дом жылы ў Маладзечне па вул. П. Броўкі, 8. Два паверхі, цэгла, дах ацынкоўка, агульная плошча 182,5 кв. м, жылая 68,8, кухня 15 кв. м, участак 6,05 соткі, гараж, лазня, хлеў, падвал. 180 тысяч руб. Т. (8-029) 6661202.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*



• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Персанальныя насценныя квартальныя календары на 2019 год з вашым фота – 8 руб., з відамі Смаргоні – 6 руб. Якасная ксеракопія А4, А3 (і каляровая) – без чаргі. Фота на майку-кубак – 9 руб. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Смаргонь, вул. Танкістаў,8 «НгС». Т. (8-01592) 31570.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт і аддзелка кватэр, дамоў і нежылых памяшканняў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956 Т. (8-029) 8771721.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне пнёў – **СКІДКА**. **ВЫВАЗ** галля і драўніны. ІП Таўгень Е. П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Гарбыль, пілавінне з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Саджалка, капалка да міні-трактара МТЗ-132Н. Т. (8-044) 5543365.*

• Трактар Т-25, касілка, капалка, рухавік Д-21 да Т-25, Т-16. Т. (8-029) 7892846.*

**Бытавая тэхніка**

• Тэлевізар «Віцязь» з прыстаўкай, ложак аднаспальны, курткі на дзяўчынку-падлетка. Маладзечна. Т. (8-0176) 734973.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Секцыя, шырыня 168 см, вышыня 234 см. Т. (8-029) 9349783.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабан жывой вагой. Т. (8-033) 6587789, (8-029) 9422005.

**Іншае**

• Гатовыя зрубы з масіву сасны, елкі пад заказ (дамы, альтанкі, лазні). ІП Квяткевіч Д.В. УНП 691182183. Т. МТС (8-029) 2727029.*

• Дровы любыя (колатыя, пілаваныя). Т. (8-029) 6106061.*

• Фрэза глебаапрацоўчая, шырыня захопу 1,7 м. Т. (8-029) 2449142.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Цыскі. Т. (8-029) 2375721.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Брыгада гіпсакардоншчыкаў. Т. (8-025) 9356332.

• Слесар-зборшчык музычных інструментаў, слесар-акорднік, абліцоўшчыца (вучань), токар. Т. (8-0176) 730521.*

• Швачка на вытворчасць па пашыве мяккай цацкі, досвед працы швачкай. Поўная занятасць на тэрыторыі працадаўцы. Тэл. (8-029) 1281620.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачнік шукае работу. Вялікі досвед. Т. (8-029) 2775694.

• Зборка і ўстаноўка мэблі. Т. (8-029) 7040346.*

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Як адзначыць Новы год па-нямецку

**Калі Каляды жыхары Германіі святкуюць спакойна і ўтульна, то Новы год – шумная ўрачыстасць.**

Яшчэ з сярэднявечча ідзе павер'е, што шум і танцы адгоняць злых духаў. Плануюць свята за некалькі месяцаў – хто займае месцы ў рэстаранах і кафэ, а хто запрашае ў госці. Звычайна бары і кавярні працуюць да самай раніцы, і любы можа далучыцца да свята ў іх.

Перад святам дом прыбіраюць, засцілаюць новую бялізну, ставяць прыгожы посуд. У новы год прынята ўступаць з усім новым. Сярод немцаў папулярнае пажаданне, якое перакладаецца, як «добра ўехаць у новы год». Таму якраз перад боем курантаў усе становяцца на крэслы, а з апошнім ударам скачуць у новы год. Пачынаюць весяліцца і віншаваць адзін аднаго.

### Феерверкі і гірлянды

Каб адчуць свята напоўніцу, немцы ўпрыгожваюць дамы рознакаляровымі гірляндамі, вянкамі, на вуліцы і ў доме ўпрыгожваюць елкі. Часта на ёлках можна сустрэць фігуркі Шчаўкунчыка. У некаторых землях вешаюць шкляныя агуркі і морквы. Калядны агурок вешаюць так, каб яго не было бачна. Раніцай дзеці шукаюць фігурку. Самы ўважлівы атрымлівае дадатковы падарунак. Шкляную моркаўку дораць жанчыне, якая нядаўна выйшла замуж. Гэтая фігурка сімвалізую пладавітасць.

Ладзяць маскарады і святочныя шэсці, запускаюць салюты і феерверкі. Святочныя шоу на берлінскім небе цягнуцца больш за гадзіну.

Нямецкага Дзеда Мароза завуць Вайнахтсман, апрануты ў футра і падперазаны ланцугом з мехам. Да дзетак ён прыходзіць разам з Крыскінд, якая нараджаная ў белае, а твар пакрыты вэлюмам. У яе руках – кошык з яблыкамі, арэхамі і прысмакамі. Салодкае фраў дорыць тым дзеткам, якія раскажуць вершык або праспяваюць песеньку. А ездзяць яны на асліку.

### Нямецкі навагодні стол

Адна з самых традыцыйных і важных страў – запечаны карп. Яго луска нагадвае манеткі, і таму ён прынесіць гаспадарам больш грошай.

Часта гатуюць свініну, кілбаскі, тушаную капусту. Бабовы суп сімвалізуе поспех. На стале абавязкова будзе сімвалічны посуд з яблыкамі, арэхамі і разынкамі і пірагамі.

Многія сучасныя гаспадыні рыхтуюць фандзю. Сырную масу падтрымліваюць патрэбнай тэмпературы, запаліўшы знізу свечку. Госці бяруць кавалкі мяса, гародніны ці іншых прысмакаў і на металічных шпажках апускаюць у фандзю. Робяць і салодкі варыянт – тады ў посудзе грэецца шакалад, у які апускаюць кавалачкі фруктаў.

На стале абавязкова мясная і сырная нарэзкі, пірог і салодкая выпечка. Папулярны штолен – рулет з цукатамі і арэхамі – і імбірныя пячэнні. З фруктаў – ананасы і мандарыны. У поўнач п'юць шампанскае. На стале могуць быць пунш і крушон.



Фота Anothercitizenship.com.

Неба над Берлінам у навагоднюю ноч больш чым на гадзіну ператвараецца ў шоу феерверкаў.

### Варажба на свінцы

Падчас застолля немцы слухаюць музыку, гуляюць у настолкі ці глядзяць тэлевізар. А некаторыя варожаць.

Паводле звычаю, кавалачак свінцу кладуць на лыжку і награваюць над свечкай, пакуль не расплавіцца. Пасля яго апускаюць у халодную ваду, дзе ён адразу застывае. Пасля дастаюць і разглядаюць, якую форму прыняў метал. Калі свінец зрабіўся ў форме сэрца – значыць, чакае каханне, кветкі лічацца прыкметай новага сяброўства.

**Эмілія ХВОЯ.**

# Крадзяжы электраэнергіі бясследна не пройдуць!

**Ёсць выпадкі, калі многія бытавыя спажыўцы, а таксама прадпрыемствы раёна, спадзеючыся на беспакаранасць, спрабуюць незаконна спажываць электраэнергію, не ўсведамляючы наступствы гэтых парушэнняў.**

У філіяле «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга» існуе спецыялізаваная брыгада па выяўленні і спыненні безуліковага спажывання электраэнергіі. Штодня праводзіцца рэйдавая праца з мэтай выяўлення фактаў безуліковага спажывання электраэнергіі па г. Маладзечна, а таксама Маладзечанскім, Валожынскім, Вілейскім і Мядзельскім раёнах.

За 11 месяцаў 2018 года персаналам электрасетак і спецыялізаванай брыгадай па выяўленні і спыненні безуліковага спажывання электраэнергіі было праведзена больш за 400 рэйдаў. Сумы шкоды, якая нанесеная энергазабеспячэнскім арганізацыям па складзеных у дачыненні да парушальнікаў актах, могуць дасягаць дзясяткаў тысяч рублёў.

Акрамя кампенсацыі шкоды па факце крадзяжу электраэнергіі, прадугледжаная таксама і адміністрацыйная адказнасць па артыкуле 20.10 КоАП РБ з накладаннем штрафу, які можа дасягаць 5-кратнага памеру ад сумы нанесенай шкоды. У канчатковым выніку сума атрымліваецца каласальнай.

Найбольш частымі спосабамі крадзяжу электрычнай энергіі ў грамадзян з'яўляюцца тармажэнне дыска электралічыльніка, падключэнне электрапрыбораў у абыход лічыльніка, ўстаноўка перамычак, накідванне правадоў на лініі. Хацелася б звярнуць увагу, што такія дзеянні прыводзяць да перагрузак, кароткіх замыканняў і паломак у электрасетцы і, як наступства, да выхаду са строю дарагога абсталявання як у вашых дамах, так і ў суседніх. Грамадзяне, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй пра крадзяжы электрычнай энергіі, могуць ананімна паведаміць пра гэта па адрасе: **вул. Драздовіча, 27, т. (8-0176) 7-26-260**.

Філіял «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга» гарантуе канфідэнцыяльнасць.

Хочацца звярнуцца да ўсіх спажыўцоў электрычнай энергіі: аплачвайце штомесяц спажытую электрычную энергію! Паводле дамовы на электразабеспячэнне пры запазычанасці па аплаце за два і больш разліковыя перыяды і непагашанай запазычанасці, арганізацыя энергазабеспячэння мае права прыпыніць аказанне паслуг энергазабеспячэння ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку. Аднаўленне аказання паслуг энергазабеспячэння праводзіцца ў парадку чарговасці пасля поўнага пагашэння абанентам запазычанасці і аплаты выдаткаў на адключэнне і падключэнне ў адпаведнасці з калькуляцыяй.

**Філіял «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга».**

УНП 100071593

● ГОД СВІННІ

# Акуніцеся ў атмасферу весялосці і прыемных эмоцый, каб назапасіцца пазітыўнай энергіяй

**Кожны год па ўсходнім гараскопе мае свайго заступніка. 2019-ы – год Свінні, які ўступіць у свае правы 5 лютага і саступае месца наступнаму знаку ўжо ў 2020 годзе 24 студзеня.**



Свіння — сімвал 2019 года.

Што ён нам паднясе і да чаго варта рыхтавацца ўсім знакам задыяка? Дванаццаты па ліку знак задыяка ўвасабляе Чорная Земляная Свіння. Лепшы час года для асоб, народжаных пад яе заступніцтвам, восень, асабліва лістапад, самы ўдалы час сутак – з дзевяці да адзінаццаці гадзін вечара. Колер знака чорны, які спрадвеку лічыцца пакалзчыкам гонару і годнасці. Таксама гэты колер азначае здольнасць пераадольваць перашкоды, дасягаць пастаўленых мэтаў.

Першы імператар Кітая пасля перамогі над дынастыяй Чжоу насіў адзенне толькі чорнага колеру, падкрэсліваючы тым самым сваю выключнасць. У 2019 годзе перавагу трэба аддаваць таксама васільковаму, лавандаваму, аліўкаваму колерам.

### Што чакае ў год Земляной Свінні

У год Свінні трэба рыхтавацца да радыкальных пераменаў у асабістым жыцці тым, хто яшчэ не звязаў свой лёс з другой палавінкай. У 2019 годзе ўсім знакам задыяка даецца шанец знайсці пару на ўсё жыццё.

Што тычыцца фінансавага боку пытання, то тут трэба быць напагатове. Перад кожнай тратай грошай уважліва аналізуйце, на што выдаткаваць суму або каму даверыць сродкі. Калі ёсць магчымасць, лепш адмоўцеся ад буйных трат і адкладзіце намечаныя набыткі на наступны год.

На працы ўсіх чакаюць дзелавыя і асабістыя паездкі, таму прыйдзецца часта сядзець «на чамаданах». Дзякуючы камандзіроўкам, адкрыюцца выдатныя перспектывы – павышэнне зарплаты, шчодрыя заахвочванні і рост па кар'ернай лесвіцы.

З самага дзяцінства Свіначкі больш часу надаюць чытанню, вучобе. Ім цікава ўсё, акрамя зносін з аднагодкамі, бо ў тых няма такога ўзроўню ведаў. Дэфіцыт зносін прыводзіць да таго, што Свінні дрэнна разбіраюцца ў людзях і вырастаюць занадта сумленнымі, даверлівымі і наіўнымі, як героі прачытаных імі кніг. Па гэтай прычыне пры сутыкненні з чалавечым злом, подласцю, жорсткасцю ў іх імгненна выпрацоўваецца вострым тып характару. Яны становяцца жорсткімі, недаверлівымі, цынічнымі, іх перастаюць хваляваць праблемы іншых. Але гэта тычыцца толькі зносін з калегамі, далёкімі сваякамі і сябрамі. У сям'і Свінні гатовыя ахвяраваць усім, каб дапамагчы роднаму чалавеку. Больш за тое, для іх шчасце блізкіх і родных стаіць вышэй за ўласны дабрабыт.

### Пазітыўныя бакі знака

Мужчыны – заўсёды галантныя асобы, яны клапоцяцца пра дом. У іх жыве праўдзівы рыцар, здольны дзеля прыгожай палавінкі на подзвігі. Мужчына дадзенага знака – вытанчаны густ, жаданне заўсёды выглядаць на ўсе «сто».

Жанчыны года Свінні клапатлівыя, працавітыя, кемлівыя дамы. Нягледзячы на масу клопатаў, яны ніколі не забываюць пра сваю знешнасць і выглядаюць з «іголачкі». Адзіны промах закладзены ў характары, яны занадта даверлівая. Сярод тых, хто патрапіў у сябры, могуць быць і такія, хто скарыстаецца мяккім характарам Свінні і паспрабуе ёю маніпуляваць. Таму варта быць асцярожнай у сувязях. Важна адзначыць, што прадстаўнікі гэтага знака з-за тэмпераментнага характару займаюць першае месца ў рэйтынгу лепшых палюбоўніц.

### Адмоўныя бакі знака

Цяжка дакладна сказаць – гэта недахоп ці не, калі казаць аб эканамічнасці і скрупулёзнасці Свінні. Так, яны чакаюць з боку матэрыяльных выгод і стараюцца заводзіць знаёмства з тымі, хто здольны дапамагчы матэрыялістычнасць узаемаадносінаў. У наш час гэта не так ужо і дрэнна.

Каб ацаніць вартасці людзей, народжаных у год Свінні, дастаткова вывучыць спіс вядомых прадстаўнікоў знака. Сярод іх Эрнэст Хемінгуэй, Лучана Паварoці, Рональд Рэйган, Ракфелер, Генры Форд, Клеапатра, інш...

### Якімі будуць дзеці, народжаныя ў год Свінні

Гэтыя дзеткі, незалежна ад свайго знака задыяка, будуць жыццярадасныя і сонечныя. Ужо проста з пялюшак яны пачнуць праяўляць цікаўнасць да ўсяго вакол. Падрастаючы, стануць выдатнымі слухачамі і нават суразмоўцамі для дарослых. З ранняга ўзросту ў іх будуць свае прынцыпы, парушаць якія ў далейшым не стануць ні пры якіх абставінах. Так што бацькам лепш уважліва паставіцца да меркавання і звычак свайго дзіцяці.

Юныя свінкі адрозніваюцца шчодрасцю. Яны не будуць хаваць апошнюю цукерку ў зацішны куток, падзеляцца ёй з усёй сям'ёй, але будуць па-дзіцячы рады, калі пачастунак дастанецца ім цалкам. Гэтыя дзеці любяць, калі іх хваляць, ім важна адчуваць сябе ацэненымі, патрэбнымі і любімымі. Адчуваючы падтрымку, яны з радасцю будуць дапамагаць па гаспадарцы і адказна падыходзіць да сваіх абавязкаў. Калі ж за працу Свіначка не атрымае заахвочвання (матэрыяльнага або вуснага), яна знервуецца аж да таго, што некалі любімы занятак, напрыклад, мыццё посуду, стане для яе ненавісным.

Такія дзеці любяць вучыцца і пазнаваць свет. З іншага боку, гэта вельмі няўседлівыя асобы, і як толькі дзіця страціць цікавасць, усю старраннасць нібы ветрам садзьме. З-за гэтага, калі не прымаць ніякіх мер, веды могуць застацца павярхоўнымі, хоць і шырокімі.

Маленькія свінкі – прыязныя і таварыскія. Часцей за ўсё яны даволі маўклівыя, але кампанію любяць і без цяжкасцяў заводзяць сабе сяброў. Не малую ролю ў гэтым адыгрывае іх сумленнасць і высакароднасць. Гэта самы неканфліктны знак усходняга гараскопа. Зрэшты, бацькам не раз прыйдзецца вызваляць малога з бойкі – як сына, так і дачушку. Усё таму, што яны не церпяць несправядлівасці, і пры неабходнасці, абавязкова стануць на абарону слабага таварыша. У дарослым жыцці, асабліва ў перыяд юнацкага максімалізму, дзеці гэтага года могуць нажыць сабе праблем якраз з-за непрымання крывадушнасці і ілжывасці.

Дзеці-свінкі не пераносяць адзіноты і адсутнасці ўвагі. Яны самастойныя фізічна – што тычыцца разагрэць пасецці або апрануцца, але зусім бездапаможныя эмацыйна. Напрыклад, калі бацькі не патэлефануюць малому, які вярнуўся пасля школы ў пустую кватэру, ужо ў той жа вечар дзіця можа занемагчы. У больш сталым узросце яны пачнуць заядаць свае псіхалагічныя праблемы, хутка губляючы пачуццё меры. Адсюль праблемы з вагой, стрававальнай сістэмай і абменам рэчываў. Акрамя таго, гэта людзі разумовай працы, а значыць, часцей вядуць малярухомы, сядзячы лад жыцця. З ранніх гадоў трэба прывучаць дзіця да пешых шпацыраў, ровара, плавання, інш., каб спартыўная актыўнасць стала адным з яго асноўных жыццёвых прынцыпаў.

Калі бацькам важна, каб дзіця года Свінні дабілася поспехаў у жыцці, то трэба развіваць у ім самадысцыпліну. Маленькія «парасяты» адрозніваюцца тонкай душэўнай арганізацыяй, яны ранімыя і ўпартыя, што абавязкова варта ўлічваць бацькам у працэсе выхавання. Нягледзячы на самастойнасць, ім важна ведаць, што ў выпадку няўдачы яны могуць разлічваць на дапамогу бацькоў або блізкіх людзей...

Калі іх акружае камфорт і спакой, яны гатовыя без цяжкасцяў справіцца з любой працай. Але калі іх нешта турбуе, то прыступы лянноты і апатыі ў асобныя перыяды жыцця могуць перашкодзіць ім выкарыстоўваць існуючыя магчымасці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

# «Рэгіянальная газета» ўзнагародзіла пераможцаў акцыі «Не губляй ніводнага дня»

МАЛАДЗЕЧНА
АСТРАВЕЦ

**Шостага снежня мы запрасілі на ўзнагароджанне пераможцаў штогадовай акцыі «Рэгіянальнай газеты» «Не губляй ніводнага дня».**

На ўрачыстасць прыйшлі аўтар фота на наш фірменны каляндар **Іна Бажко** з мадэллю **Нэлі Соніч** з Маладзечна, жыхар Астраўца **Юры Горыд** і **Алесь Раткевіч** з Чысці.

### Алесь Раткевіч: Дзякуй «Рэгіянальнай газеце», што стаў пісьменнікам

Прыз у намінацыі «За сувязь з «Рэгіянальнай газетай» атрымаў наш пазаштатны аўтар **Алесь Раткевіч**. Да таго ж у чытацкім галасаванні яго фотаздымак заняў трэцяе месца. На фота – спадар Алесь з 90-гадовым жыхаром вёскі Сакалоўка, што на Вілейшчыне, **Уладзімірам Барысевічам**.

– Думаю, што галасуючы за дасланы мной фотаздымак, галасавалі за нашу старасць, – падзяліўся Алесь Раткевіч. – Цешыць тое, што людзі не счарсцвелі, што не толькі грошы, кошкі і сабачкі вабяць іх.

Прымаючы віншаванні, Алесь Раткевіч заявіў, што без «Рэгіянальнай газеты» не было б яго сённяшняга – аўтара кнігі «Невядомая гісторыя майго краю»:

– У адрозненне ад дзяржаўных выданняў, у цяжкіх умовах ваша газета выжывае сама, без дзяржаўнай падтрымкі. Праводзіць такія акцыі, да таго ж яшчэ рызыкуе, друкуючы мае матэрыялы, – адзначыў госць з Чысці.

### Юры Горыд: Пакуль увесь свет круціцца вакол дачкі

Фатографа **Юрыя Горыда** з Астраўца «Рэгіянальная газета» ўзнагародзіла за выключнае майстэрства. На дасланым фота – яго жонка **Алёна** і трохгадовая дачка **Паліна** бягуць па восеньскім парку ля вёскі Дубнікі на Астравеччыне.

Яшчэ адзін фотаздымак гэтай мясціны, зроблены на плёнку фотаапаратам 1970-х гадоў, Юры падарыў нашай рэдакцыі.

Юры мае трохгадовую дачку, таму ўвесь свет круціцца вакол яе. Вось і пра конкурс даведаўся ў апошні момант.

### Нэлі Соніч: Сукенку з восеньскіх лістоў мы апранаем не кожны дзень

Фірменны каляндар «Рэгіянальнай газеты» ўпрыгожыць фотаздымак маладзечанкі Іны Бажко. На ўрачыстасць Іна прыйшла з Нэлі Соніч – дзяўчынай, адлюстраванай на фотаздымку ў вобразе Дрыяды.

Вобраз для фота дзяўчаты прыдумалі разам. А вось сукенку з кляновых лістоў Нэлі рабіла сама:

– Удзень занырнула ў гарадскі парк, а ўвечары вынырнула з кучай лістоў, – прыгадала Нэлі. – Прахожыя вельмі дзіўна паглядалі на мяне. Потым зачынілася з лістамі ў сваім пакоі і цэлую ноч рабіла сукенку. Падышла адказна. Усё ж сукенку з кляновых лістоў мы апранаем не кожны дзень.

### Іна Бажко: з дзяцінства лічыла, што фота – гэта чараўніцтва

Маладзечанка Іна Бажко па спецыяльнасці – фельчар. Кажа, фота ратуе ад няпростай і неспакойнай працы медыка.

> – Фотаздымка захапіла мяне яшчэ ў дзяцінстве, – распавяла фатограф. – Калі бацька ў цёмным пакоі праяўляў фоткі. Клаў у раствор белы аркуш, а даставаў яго адтуль ужо з карцінкай. Я не думала ні пра якія хімічныя рэакцыі. Была перакананая: гэта чараўніцтва.



Юры Горыд і Зоя Хруцкая абмяняліся падарункамі.


Нэлі Соніч.


Алесь Раткевіч.


Юры Горыд.



Іна Бажко.

### Якім стаў для вас 2018 год?

**Алесь Раткевіч:**

– Споўнілася 90 год майму сябру Уладзіміру Барысевічу. У мяне выйшла кніжка пра Вілейшчыну «Невядомая гісторыя майго краю» – пра рэпрэсіі, жыццё пры Польшчы, вайну і партызаншчыну. У ёй я раскрываю другі бок медаля. Пра ўсе падзеі пытаюся ў военачальнікаў, у дзяржавы, а ў звычайных людзей ніхто не пытаецца. Я ў сваёй кнізе выпраўляю гэту недарэчнасць. Палац не пабудаваў, тэхніку не набыў, але з'явілася больш сяброў і прыхільнікаў. Саюз беларускіх пісьменнікаў прыняў мяне ў свае шэрагі.

**Юры Горыд:**

– Апошнія гады я здымаю радзей, але гэту цудоўную восень прапусціць не мог. Дачка пайшла ў садок. Назіраем, як яна расце. Лічу, што праца будзе заўсёды, таму не варта аддаваць ёй шмат часу, каб не бачыць, як расце твая дзіця. Дачка пачала займацца англійскай мовай. Ёй падабаецца. Кожны дзень яна нас чымсьці здзіўляе. Я магу сабе дазволіць займацца тым, што мне падабаецца. Таму, напрыклад, не здымаю вяселлі. Часта здараецца так, што фатограф бярэ камерцыйныя здымкі, шмат працуе на вяселлях. Потым ідзе на пенсію, і што ў выніку? У яго няма выстаў, ніводны яго фотаздымак не ўключаны ў падручнік па фота.

**Нэлі Соніч:**

– Год прайшоў так: праца-дом-падарожжы. Атрымалася некалькі дзён пабыць у Францыі, Італіі, Іспаніі. Заўважыла, што там няма такіх неверагодных кляновых лістоў, як у нас. Шмат з бацькамі ездзім і па Беларусі. Таксама сёлета ўдзельнічала ў фестывалі «Час жыць» у Маладзечне. Выступала са сваім музычным гуртам, бо іграю на фартэпіяна і бас-гітары.

**Іна Бажко:**

– Было шмат працы. Пабачыла адно з цудаў свету – Егіпецкія піраміды. Першы раз пабывала на моры. Перамагла ў вашай акцыі. Здымала вяселлі. А яшчэ лав-сторы. Мне асабліва падабаецца іх здымаць. Часта прапаноўваю гэта зрабіць маладым перад вяселлем. На такіх здымках можна пабегаць па вадзе і пакачацца па траве. На вяселлі гэтага не зробіш. Удалыя фотасесіі былі з Нэлі. Яна сама можа прыдумаць адметныя вобразы. Здымаліся мы і з гітарай, і з лукам. Нэлі звычайна на здымкі палову кватэры вывозіць.

### Чаго чакаеце ад 2019 года?

**Алесь Раткевіч:**

– Хацелася б на Вілейшчыне, у Батурыне, абазначыць месца, дзе стаяў касцёл, у якім у 1918 годзе абвясцілі пра стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. А таксама добра было б, каб адшукалі месца, дзе ноччу ў кастрычніку 1937-га органы НКВД забілі больш за сто прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Бо некаторыя настойваюць, што гэта не Курапаты.

**Юры Горыд:**

– Я не планую нават на месяц наперад.

**Нэлі Соніч:**

– Разам з Інай зрабіць фотаздымку «Чатыры сезоны». А ўвогуле, я жыву гэтым днём і рада, што мары здзяйсняюцца.

**Іна Бажко:**

– А ў маіх планах – Нэлі. Буду па-ранейшаму яе здымаць. Спадзяюся, што будзе больш сонечных дзён. Хочацца павандраваць па Беларусі і замежжы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота Таццяны КАСЬЯН.**

# Паўсталі нарачанскія рыбакі, а маладзечанскі фестываль спынілі з-за дажджу

## Чым адзначыліся гады Свінні ў рэгіёне

**Што прынясе нам 2019 год? Хай над гэтым пытаннем падумаюць астролагі. Мы ж па традыцыі прыгадаем, як сваімі капыткамі праходзілі ранейшыя гады па Маладзечне, Вілейцы, Мядзеле і Валожыне.**

МАЛАДЗЕЧНА
МЯДЗЕЛ
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

### 1935

Летам адбылося нарачанскае паўстанне рыбакоў. Прычынай стала забарона ўладамі свабоднай лоўлі рыбы на возеры Нарач. У выступленні ўдзельнічала каля пяці тысяч сялян. Гэтай падзеі прысвяціў сваю паэму «Нарач» паэт **Максім Танк**.

Уздымаўся народ і ў Валожыне. Тут дзейнічала нелегальная камуністычная арганізацыя. Ад 1935 і да 1939 года яны ўчынілі шэсць забастовак.

У 1935 годзе газета «Беларуская крыніца» пісала пра Мядзельшчыну – як пра найлепшае месца для адпачынку ў тагачасных турыстаў. Нарач тады называлі Віленскім морам. Туды хадзілі цягнікі з Вільні.

У савецкай турме ва Уфе памёр **Лявон Заяц**, палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў Даўгінаве, цяпер Вілейскі раён, у сакавіку 1890 года.

У вёсцы Дварэц каля Лукаўца нарадзіўся **Уладзімір Папковіч** – паэт, перакладчык, выкладчык нямецкай мовы.

У Альковічах (цяпер Вілейшчына) нарадзіўся **Кандрат Церах**— савецкі і беларускі гаспадарчы дзеяч, апошні міністр гандлю СССР (1986-1991).

У Лебедзеве па прапанове настаўніка **Стэфана Батоўскага** пачалі будаваць новую школу.

А яшчэ 1935 годам датаваныя многія здымкі вілейскага фотамастака, своеасаблівага летапісца Вілейшчыны **Беркі Бермана**.

### 1947

Зацвердзілі генплан Маладзечна. Згодна з ім, на Цэнтральнай плошчы павінны былі з'явіцца гарадскія, абласныя партыйныя і савецкія арганізацыі, крамы, установы культуры і адукацыі. У цэнтры – невялікі сквер.

Зімой у Маладзечне правялі хакейны матч паміж гаспадарамі і камандай Мінска. Гаспадары прайгралі з лікам 12:0.

Тут жа пачаў працаваць ліцейна-механічны завод, які цяпер называецца станкабудаўнічым. А чыгуначны вакзал аднавілі пасля вайны.

У снежні 1947 года Ільянская раённая бібліятэка атрымала новае памяшканне на пяць тысяч кніг.

У Валожыне адкрылася кнігарня. Летам у Івянцы зачынілі касцёл, пабудаваны ў 18 стагоддзі. Да 1962 года там была бібліятэка.

У Мядзеле арганізавалі службу «хуткай дапамогі», увялі пасаду фельчара і конюха-возчыка.

### 1959

У Маладзечне, тады абласным цэнтры, на плошчы ўзвялі будынак абласнога райспажыўтаварыства. Праз год будынак перадалі кааператыўнаму тэхнікуму. Сёння гэта Маладзечанскі гандлёва-эканамічны каледж. А ў Івянцы адчынілі музычную школу.

17 лістапада Мядзел стаў гарадскім пасёлкам, а ў Мядзельскі раён увайшла частка Свірскага. Ураджэнец Мядзельшчыны паэт Максім Танк атрымаў літаратурную прэмію Янкі Купалы за зборнік «След бліскавіцы».

З Вілейкі ў Маладзечна ў новы будынак пераехала станцыя пералівання крыві. А ў Вілейцы адкрылі спартыўную школу.

### 1971

У Насілаве на Маладзечаншчыне паставілі помнік у гонар земляkоў, што загінулі падчас Другой сусветнай.

У Маладзечне нарадзіўся **Аляксей Філіпаў** – майстар спорту міжнароднага класа, неаднаразовы чэмпіён Еўропы і трохразовы чэмпіён свету па міні-футболе. У гэтым годзе тут нарадзіўся і **Сяргей Юшко**, навуковец, які цяпер жыве ў Татарстане і працуе рэктарам Казанскага ўніверсітэта. І яшчэ адна знакамітая ўраджэнка Маладзечна з'явілася на свет у 1971-м – беларуская актрыса **Валерыя Арланава**.

У Маладзечне пачалі будаваць крытую танцпляцоўку.

У Вілейцы ў будынку былой турмы 19 стагоддзя адкрылі анкалагічны дыспансер. Сёлета дзякуючы вілейскім актывістам дыспансер зачынілі. А для хворых на анкалогію з'явілася па некалькі ложкаў у раённых бальніцах.

У 1971 годзе распрацавалі генплан забудовы Валожына. А мясцовая школа №1 перайшла ў новы будынак. Івянецкія ганчары падрыхтавалі для Выставы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР 50 відаў керамічных вырабаў: пано, гранёныя вазы, прыбор для снедання, куфлі для піва.

### 1983

Стварылі першы корпус завода парашковай металургіі ў Маладзечне і УП «Камунальнік», а ў Вілейцы і Мядзеле – прадпрыемствы ЖКГ.

У Маладзечне пачало працаваць ПТВ-135. У Вілейцы ў верасні ўвялі ў эксплуатацыю новы будынак паліклінікі па вуліцы Маркава.

На Валожыншчыне навукоўцы абследавалі гарадзішча ранняга жалезнага веку каля вёскі Яршэвічы. Знайшлі некалькі фрагментаў штрыхавой керамікі, апаленыя крэмені.

### 1995

У красавіку выйшаў першы нумар «Рэгіянальнай газеты».

Фестываль беларускай песні і паэзіі на год пераехаў з Маладзечна ў Мінск.

Адкрылі мемарыяльны комплекс «Шталаг-342» на месцы былога лагера для ваеннапалонных.

Аркестру рускіх народных інструментаў Маладзечанскага музвучылішча прысвоілі званне народнага. А колішняга старшыню Маладзечанскага гарвыканкама **Генадзя Карпенку** ў чарговы раз абралі дэпутатам Вярхоўнага Савета.

У сакавіку ў Маладзечне стварылі завод жалезабетонных вырабаў.

У Вілейцы на гарадскіх могілках «Лясныя» ўсталявалі драўляны крыж, а побач – валун у гонар людзей, закатаваных у Вілейскай турме.

Расія перадала Беларусі ў бязвыплатнае карыстанне на 25 год 43 вузел сувязі ваенна-марскога флоту, што знаходзіцца на Вілейшчыне.

Памёр **Аляксандр Азончык**, які першым, у 1944 годзе, сярод прадстаўнікоў Вілейшчыны стаў Героем Савецкага Саюза.

Пачалі будаваць Вілейскую ГЭС. У эксплуатацыю яе ўвялі праз тры гады.

7 жніўня ў Мінску памёр паэт **Максім Танк**, ураджэнец вёскі Пількаўшчына, што на Мядзельшчыне.

У Валожыне адкрылі помнік на месцы, дзе падчас вайны масава расстрэльвалі яўрэяў.

### 2007

Мінскі абласны драмтэатр з Маладзечна стаў лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу тэатральных пастановак п'ес класікаў і сучасных беларускіх драматургаў.

Гаспадаркі Мядзельшчыны атрымалі сем нямецкіх трактароў «Фэндт-930».

У паэта-віляйчаніна **Усевалада Сцебуракі** выйшла першая кніжка пад назвай «Крушня». А вакальны гурт «Суквецце» Вілейскага Палаца культуры атрымаў званне народнага.

У Мінску выйшла ілюстраваная кніга «Мікола Ермаловіч», прысвечаная гісторыку і краязнаўцу, жыхару горада, які трагічна загінуў у 2000.

Падчас рамонту чыгункі ў Вілейцы рабочыя знайшлі снарад часоў Другой сусветнай.

Маладзечанскі фестываль у 2007-м быў прысвечаны 125-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа. З-за небяспечнага надвор'я арганізатары адмянілі фінальны канцэрт фестывалю.

Іншы фестываль, «Адна зямля», адбыўся без надзвычайных здарэнняў у Валожыне. Перамог маладзечанец **Віктар Выбарнаў**.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



У 1935 годзе ў Вілейцы працавала майстэрня Беркі Бермана. А фота гэтай вілейскай прыгажуні было ў якасці рэкламы.

● КАЛЯНДАР

**14 СНЕЖНЯ**

**1957.** У газеце «Літаратура і мастацтва» з'явіўся артыкул Барыса Сачанкі «Шанаваць родную мову» – першае выступленне ў прэсе супраць русіфікацыі.

**15 СНЕЖНЯ**

**1575.** Каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага абраны **Стэфан Баторы** (1576-1586 гг.).

**1986.** 28 аўтарытэтных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі (**В. Адамчык**, **Р. Барадулін**, **Я. Брыль**, **В. Быкаў**, **П. Панчанка**, **Л. Шчамялёў**, **С. Станюта** і іншыя), накіравалі на імя генеральнага сакратара ЦК КПСС М. Гарбачова адкрыты ліст, у якім прадстаўлялі супраць дыскрымінацыі беларускай мовы на яе гістарычных абшарах. У лісце былі прапанаваныя захады дзеля паляпшэння стану беларускай мовы ў Беларусі. Ліст быў праігнараваны.

**16 СНЕЖНЯ**

**1799.** Нарадзіўся **Ян Баршчэўскі**, пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

**17 СНЕЖНЯ**

**1886.** Нарадзіўся **Мікола Равенскі**, кампазітар, фалькларыст, аўтар беларускага гімна «Магутны Божа», дзеяч эміграцыі ў Германіі, Бельгіі.

**1891.** Нарадзіўся **Андрэй Цікота** (хутар Плавушка, цяпер Смаргонскі раён), рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, генерал ордэна марыянаў.

**1926.** У СССР прайшоў перапіс насельніцтва, у Беларусі – 4 мільёны 983 тысячы чалавек. Сёлета на канец верасня ў Беларусі жыло 9 мільёнаў 477,1 тысячы чалавек.

**18 СНЕЖНЯ**

**1934.** Памёр **Альбін Стаповіч**, беларускі грамадска-палітычны і музычны дзеяч, публіцыст. Брат Казіміра Сваяка. Вучыўся ў кансерваторыі Монтвіла ў Вільні, Казанскім і Віленскім універсітэтах (1918–24). Перапыніў вучобу па прычыне матэрыяльнага становішча. Адзін з заснавальнікаў Беларускага кааператыўнага земляробча-прамысловага банка ў Вільні, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, яго сакратар, намеснік старшыні (1930–34), старшыня Віленскага аддзела, кіраўнік хору пры ім. Нарадзіўся 18 сакавіка 1894 года ў вёсцы Барані, цяпер Астравецкі раён. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

**1973.** 45 гадоў назад **Пётр Клімук** стаў першым беларусам, што паляцеў у космас (потым здзейсніў яшчэ два палёты).

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Рады, што маё асяроддзе напалову

## Журналіст ураджэнец Ашмянаў Аляксандр Тамковіч –

**Ён гутарыў з Васілём Быкавым і Рыгорам Барадуліным, сябруе з нобелеўскай лаўрэаткай Святланай Алексіевіч і вось ужо колькі год выконвае загад Уладзіміра Някляева – не пісаць вершаў. А яшчэ мой герой памятае старажытную алею ў Ашмянах і ўпэўнены, што роднаму гораду ёсць чым ганарыцца.**



Аляксандр і Ірына Тамковічы.



Пачатак. Ашмянскае дзяцінства.



Ашмянскае фотаатэлье. З аднакласнікамі. Прыблізна 1982 год. Аляксандр Тамковіч – першы злева ў другім радзе.

АШМЯНЫ

Госць сённяшняга нумара – ураджэнец Ашмянаў, журналіст і пісьменнік **Аляксандр Тамковіч**.

**– Прыгадайце горад свайго дзяцінства.**

– Памятаю, як дачка ўпершыню ўбачыла Ашмяны пасля чарговага добраўпарадкавання і сказала, што райцэнтр стаў не падобны на горад яе дзяцінства. Перш за ўсё таму, што спілавалі ліпавую алею, якая сустракала ўсіх, хто накіроўваўся сюды з боку Смаргоні. Нешта падобнае магу сказаць і я.

На мой погляд, далёка не заўсёды добраўпарадкаванне бывае карысным і далёка не заўсёды дзеясловы «рабіць» і «думаць» сінанімічныя. Справа густу – рэч індывідуальная, але асабіста для мяне, калі адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі робяць падобным на калгасную сядзібу, красамоўна сведчыць пра тое, што лёсавызначальныя рашэнні часта прымаюць не самыя адукаваныя людзі… Асабліва калі яны чужакі і родны мне горад разглядаюць не больш як чарговую прыступку сваёй службовай кар'еры. За 55 гадоў уласнага жыцця я магу на пальцах адной рукі пералічыць кіраўнікоў Ашмяншчыны з ашмянскімі каранямі. Спадзяюся, тыя, хто аддаў загад спілаваць ліпы майго дзяцінства, ведаюць, што раней цэнтральную вуліцу горада называлі Жупранскай, Люцыяна Жалігоўскага і нават Вермахтштрасе. Трэба, каб ашмянцы ведалі, што нам ёсць чым ганарыцца. Ведалі, што некалі горад меў Магдэбургскае права і хто такі ксёндз-паэт **Аляксандр Астрамовіч**. Ведалі, што тут нарадзілася муза і жонка Якуба Коласа **Марыя Каменская**, што Ашмяны родным горадам называюць нашы сучаснікі і мае добрыя знаёмыя – пісьменнік **Віктар Марціновіч** і спявачка **Таццяна Грыневіч**.

**– Кажуць, мы малыя да таго часу, пакуль жывыя бацькі. Прыгадайце сваіх.**

– Яны разышліся, калі я толькі пачынаў хадзіць у школу, таму з бацькам **Леанідам Вікенцьевічам** амаль не кантактаваў. Ужо дарослым некалькі разоў з ім размаўляў, пасля быў на пахаванні, паставіў помнік на магіле. Маці, таксама нябожчыца, **Крысціна Аляксандраўна**, шмат гадоў працавала ў Вільні, на заводзе, які выраблю апаратуру для паліва, і куды кожны дзень аўтобус прывозіў-адвозіў беларускую працоўную сілу. Мы з сястрой, **Святланай**, якая цяпер жыве ў Літве, у гэты час альбо былі ў школе, альбо ўжо спалі і бачылі маці толькі па выхадных. Выхоўвала нас яе маці, баба **Лёня**.

**– Ваша мама была чалавекам ваеннага часу. Што яна і іншыя сваякі ўспаміналі пра Другую сусветную, пра міжваеннае жыццё?**

– Шкадую, што ў свой час не запісаў на дыктафон іх успаміны… Напэўна, сёння зрабіў бы гэта, але нікога з іх ужо няма. Таму запісвайце, пакуль ёсць каго запісаць. Памятаю, як бабуля расказвала, што за першымі саветамі (на Захадзе Беларусі ведаюць сутнасць гэтага тэрміну) яе ноччу, амаль раздзетую, забралі ў міліцэйскі пастарунак. Пад нагамі хлюпала нейкая вадкасць. Раніцай іх адпусцілі. Яе ногі былі чырвонымі ад людской крыві.

Апошнім часам шмат настальгічных фраз наконт «сталінскіх часоў». На мой погляд, так разважаць могуць альбо тыя, хто нічога не ведае і не разумее, альбо, калі чалавек разлічвае на месца на вышцы з аўтаматам. Ашмянцы ўзгадвалі, што «польскія партызаны» былі больш добрымі за савецкіх. А яшчэ ад землякоў я не раз чуў тое, што называлася «антысавецчынай». Не выпадкова ў нашы мясціны амаль заўсёды завозілі начальнікаў з усходу.

**– Пра ваш радавод нешта вядома?**

– На жаль, менш, чым хацелася. Бацька з-пад Крэва, па лініі маці – усе з Ашмянаў. Мы – нашчадкі дробнай польска-беларускай шляхты. А калі ўлічыць, што менавіта на захадзе Гарадзенскай вобласці пачалося і квітнела Вялікае Княства Літоўскае, то ўраджэнцы гэтага рэгіёна, як ніхто іншы, маюць права называць сябе ліцвінамі.

Увогуле нацыянальная прыналежнасць, на мой погляд, не павінна быць прадметам для спрэчак. Апошнім часам я не раз чуў наконт маёй нацыянальнасці шмат версій.

**– Цікава. І кім жа вас бачылі?**

– Грузінам, армянінам, чачэнцам і нават яўрэем. Нічога, акрамя смеху, гэта не выклікае. На мой погляд, важная не «пятая графа» ў пашпарце, а тое, якім ты стаў чалавекам.

Бабуля расказвала, што ў цяжкія часы дапамагалі выжываць менавіта яўрэі, якія куплялі ў людзей лісічкі. Не буду гадаць, ці ведалі тады пра гаючыя якасці гэтых грыбоў, але што іх не любяць чарвякі – ведалі ўсе.

У нас ніколі не звярталі ўвагі ні на нацыянальнасць, ні на рэлігійную прыналежнасць. Каталікі святкавалі разам з праваслаўнымі каталіцкія святы і ішлі да іх у госці на святы праваслаўныя. І наадварот. У раннім дзяцінстве мне, каталіку, выратаваў жыццё доктар, які быў праваслаўным. Калі ж школьнікам зімой я тануў у Ашмянцы, то мяне выцягнуў з палонкі мусульманін.

**– У школе былі ўзорным вучнем?**

– У школе я больш атрымліваў добрыя адзнакі, чым вучыўся. У паводзінах нічога экстраардынарнага не было. Рабіў тое, што сёння можа паказацца нечым забароненым толькі чалавеку з дэфіцытам пачуцця гумару. Напрыклад, хадзіў на танцы ў раённы Дом культуры. Раней там дзяжурылі школьныя настаўнікі (мае спачуванні), а то і сам дырэктар школы.

**– За кепскія паводзіны вам перападала?**

– Не. Бо не было ад каго. Затое не раз чуў пра «гадоту нябітую».

**– Былі настаўнікі, якія паўплывалі на вас?**

– У выпускным класе ў нас змяніўся класны кіраўнік. З вялікай павагай стаўлюся да **Любові Верхаводкі**, якая правяла нас ад пятага да дзясятага, і не менш паважаю **Тамару Ліпчанскую** (тады **Буткевіч**), для якой мы сталі першымі выпускнікамі ўвогуле. Першай ужо няма на гэтым свеце, а другой скажу так: «Рады быць Вашым вучнем!». Любімым настаўнікам быў светлай памяці **Міхаіл Луня**. Ён выкладаў у нас матэматыку і навучыў думаць лагічна, што я лічу не менш важным за літаратурныя здольнасці. Тамара Сяргееўна, настаўніца хіміі, таксама вітала ў вучнях гэту якасць.

**– Школьны выпускны памятаеце?**

# складаецца з герояў уласных кніг

## пра дзяцінства, сям'ю, хваробу, творчасць



З Васілём Быкавым.



Кацярына Тамковіч з сям'ёй жыве ў Варшаве. На фота – яна з дачкой.

– Выпускны быў не ў горадзе. Тады не змагаліся з алкаголем. А наступны дзень былі знакамітыя ашмянскія матагонкі. Некаторыя з нас сустрэлі світанак і адразу пайшлі на спаборніцтвы.

**– Ці падтрымліваеце адносіны з кімсьці з аднакласнікаў?**

– Так. Прыемна, што пра мяне памятаюць і шчыра дапамагаюць **Эдзік Каха280ноўскі**, **Валя Казлова** (раней Бабpоўская) і **Гена Мерчы**, які цяпер жыве ў Мінску і бывае на прэзентацыях усіх маіх кніг. А нядаўна прыходзіў на мінскі паказ фільма маёй дачкі.

**– А чаму вы вырашылі падацца ў вайсковае вучылішча ў Львоў?**

– Ніколі не марыў пра ваенную кар'еру і не думаў пра вучобу ў Львове. Наадварот, каб адразу не трапіць у войска, я падмануў ашмянскага ваенкома, што буду паступаць у вайсковае вучылішча, а сам з'ехаў у Піцер. Праз паўгода выпадкова ў Ашмянах трапіў яму на вочы і хутка аказаўся абутым у кірзавыя боты. Аказалася, гэта і вырашыла мой лёс.

Справа ў тым, што з Паўночнага флоту, куды я трапіў у марскую інжынерную службу, пяць год ніхто не паступаў на факультэт журналістыкі Львоўскай вайскова-палітычнай вучэльні. Вайсковым журналістам тэрмінова трэба было паставіць галачку, і тут з'явіўся ваенкор Тамковіч. Як кажуць, зоркі дасышліся. Для таго каб я пагадзіўся паехаць паступаць, яны таемна дамовіліся з маімі камандзірамі і мне далі дзесяць дзён адпачынку.

**– І як вам паступалася?**

– У Львоў я паехаў з Ашмянаў і на сто адсоткаў упэўнены, што не паступлю. Конкурсы сярод абітурыентаў у вайсковую вучэльню ў Львове былі вельмі высокія. Яно і зразумела: адна ўстанова такога кшталту на ўсе агромністыя Узброеныя Сілы Савецкага Саюза. А набіраюць толькі 70-80 чалавек. Аказалася, журналістыкай там кіравалі былыя аднакурснікі маіх запалярных куратараў. Атрымлівалася, што я паступіў у той момант, калі пагадзіўся туды паехаць.

**– Як трапілі ў Мінск?**

Мінск абраў мяне сам. Я стажыраваўся ў газеце «Во славу Родины». Адтуль і накіравалі ў вучэльню адпаведны запыт. Але лёсавызначальным было не гэта. І нават не мой чырвоны дыплом. Перад выпускам мне ўжо пашылі марскую форму. Маўляў, паедзеш туды, адкуль і прыехаў. Зноўку ўсё вырашыў выпадак. Тагачасны начальнік нашай вучэльні генерал **Залатароў** часта падыходзіў пагаварыць пра папулярныя некалі гродзенскія цыгарэты.

Так адбылося і тады. Падчас размовы генерал даведаўся пра беларускі запыт і нежаданне ехаць на флот. Вакол нас сабралася шмат слухачоў, і ён публічна паабяцаў ва ўсім разабрацца. Літаральна праз дзень я здаў на склад пашытую форму флоцкага афіцэра. Разам з намі тады вучыўся сённяшні міністр інфармацыі **Аляксандр Карлюкевіч**. Гэта ён у Мінску пазнаёміў мяне з паэтам-вязнем **Сяргеем Новікам-Пяюном**, які напісаў знакамітыя «Зорачкі».

**– А цяпер – час рамантычных пытанняў. Ведаю, што вы з жонкай, Ірынай, жылі ў адным горадзе. Раскажыце, як пазнаёміліся, як пачалі сустракацца?**

– Сапраўды, мы з жонкай з Ашмянаў. Толькі вучыліся ў розных школах. Мы пазнаёміліся ў яе сяброўкі **Рэгіны**, калі я быў у Ашмянах на канікулах.

**– Прапанову хутка зрабілі?**

– Праз восем месяцаў пасля знаёмства. 14 лістапада 1987 года мы пабраліся шлюбам.

**– Як маладая сям'я змагалася з пабытавымі праблемамі?**

– З пабытовых праблем хутка вырашылася толькі пытанне з жытлом. Адзін з афіцэраў нашай газеты ехаў служыць у Вугоршчыну. Па ваеннай завядзёнцы пакой яго двухпакаёўкі дастаўся нам. Усе астатняе было, як ва ўсіх астатніх – чэргі, дэфіцыт, купоны. У верасні 1988 года нарадзілася наша дачка **Кацярына**. Сёння яна мае псеўданім **Мара**. Прозвішча таксама было псеўданімам – **Нальшанская**. Калісьці Нальшанскім называлася княства, дзе месціцца Ашмяны, але Варшаўская школа кінематаграфіі, дзе вучылася дачка, запатрабавала вярнуць сапраўднае прозвішча.

**– Чым займаецца Мара-Кацярына?**

– Яна з'ехала вучыцца ў Польшчу па праграме Каліноўскага, калі я ўжо хварэў. Спачатку яе вабіла журналістыка, потым кіно. Яна ў нас малайчына. За сваю дыпломную работу атрымала шмат прызоў розных кінафестываляў, а ў дзень майго 55-годдзя зрабіла шыкоўны падарунак – выйграла адзін з конкурсаў «Лістапада».

**– Як-небудзь пасабліваму выхоўвалі дачку?**

– Я не Макаранка, каб мець права пісаць нейкія педагагічныя паэмы, але тое, што дачка некалі напісала, што ёй было ў каго вучыцца – прыемная канстатацыя факта. Да таго ж я прынцыпова лічу: галоўнай у выхаванні дачкі была мая жонка. А яшчэ я вельмі ўдзячны дачцэ за цудоўных зяця **Юру** і добрых смаргонскіх сваякоў **Марыю** і **Вальдэмара Высоцкіх**. І, канешне ж, за цудоўную ўнучку **Мімі**. Безумоўна, хацеў бы яе бачыць часцей…

**– Вы сказалі, што перажылі выпрабаванне хваробай. Распавядзіце пра гэты перыяд. І як цяпер у вас стасункі са здаровым ладам жыцця?**

– Сорамна, але адносна здаровага ладу жыцця – не пра мяне. Адзінае, за што можна дзякаваць хваробе, гэта за тое, што кінуў курыць і пакрыху зноў пачаў займацца спортам. У дзяцінстве мы літаральна трызнілі культурызмам, цяжкай атлетыкай, цягалі розныя штангі-гантэлі і цэглу з будынка сучаснага гарвыканкама на будаўніцтва свайго клуба, які называлі Мурвейнікам. Сёння я амаль кожную раніцу займаюся моднай цяпер скандынаўскай хадой. Хачу пахудзець. Але з півам гэта неяк не стасуецца… Наконт дакладнага дыягназу нічога канкрэтнага сказаць не магу, бо яго няма ўжо 16 год. Адны версіі. Пасля памылкі, калі «свяцілы» далі мне год жыцця, ніхто больш не рызыкуе. Дактары так і сказалі: пасля ўскрыцця дакладна скажам, што было…

**– Хто быў побач у гэты няпросты для вас час?**

Ад усяго сэрца ўдзячны сваёй жонцы і яе маці, якую мы называем «баба Стася». Яны дапамаглі не здацца. Як сказаў мой сябар **Валодзя Гаранькоў**, які цяпер працуе стаматолагам у Маладзечне: «Табе Бог даў хваробу, каб ты напісаў свае кнігі».

**– Вось цяпер пра кнігі. Чаму вырашылі заняцца гэтай непрыбытковай і не заўсёды ўдзячнай справай?**

– Яшчэ ў школе я пачаў пісаць вершы. Адзін з іх паслаў у «Знамя юности». Тагачасны літаратурны кансультант газеты **Уладзімір Някляеў** даслаў «пахаванку» і параіў пісаць прозу. Дзякуй, што цяпер ён заўсёды прыходзіць на мае прэзентацыі і там цікава выступае, а я час ад часу нагадваю, што выканаў той яго загад.

**– Вашы творы – больш літаратура ці журналістыка?**

Я працую ў жанры нон-фікшн, гэта на мяжы журналістыкі і літаратуры. Пісьменнікі лічаць нас журналістамі, журналісты – пісьменнікамі. Непрыдуманая літаратура часам не лічыцца літаратурай толькі за тое, што яе ніхто не прыдумаў. Мной напісана і выдадзена 20 кніг, тры з якіх перакладзеныя на англійскую мову, адна на нямецкую і адна перавыдадзеная.

**– А што ў планах?**

– Калі дасць Бог, 21-й кнігай будуць біяграфічныя ўспаміны **Зінаіды Бандарэнкі**. На выданне гэтай кнігі абвешчаны краўдфандынг. Спадзяюся, што напярэдадні 80-годдзя Зінаіды Аляксандраўны яна ўбачыць свет.

**– Раскажыце пра герояў сваіх кніг. Як выбіраеце іх?**

– Імкнуся наўмысна не падбіраць герояў, згодна з пэўнымі рамкамі. Адзінае – чалавек павінны быць цікавы іншым. Усё астатняе неяк атрымліваецца само сабой. Амаль усе – гонар беларускай нацыі, пісьменнікі, музыкі, мастакі. Пра сваё жыццё распавядалі таксама палітыкі, праваабаронцы, грамадскія дзеячы. Ёсць дзве размовы, за якія мне сёння сорамна.

**– Калі ёсць размовы, за якія сорамна, павінны ж быць і тыя, якімі ганарыцеся?**

– Сапраўды. Ганаруся, што паспеў запісаць пры жыцці **Васіля Быкава**, **Рыгора Барадуліна**, **Генадзя Бураўкіна**, зрабіць нарыс пра **Ніла Гілевіча**. Рады, што маю прыяцельскія адносіны са **Святланай Алексіевіч**. Ганаруся таксама, што часам бываю ў асяроддзі, якое напалову складаецца з герояў маіх кніг.

**Гутарыла Аксана ЯРАШОНАК.**

**Фотаздымкі з асабістага архіва героя.**

● ХАКЕЙ


Юры Файкоў.

## Маладзечанскія зубры выйгралі ў «Металурга»

МАЛАДЗЕЧНА

Гульня экстралігі «А» 9 снежня скончылася лікам 2:1 на карысць гаспадароў – маладзечанцаў.

Шайбу забілі **Грэцкі** і **Амбражэйчык**.

Галоўны трэнер ХК «Дынама-Маладзечна» **Юры Файкоў** прызнаўся пасля гульні:

– Вельмі складаны матч. Каманда саперніка выйшла сёння зараджанай біцца ў кожным гульнявым моманце. Мы не адразу, але таксама ўліліся ў гульню. Малайцы! Усіх балельшчыкаў з перамогай.

Пракаментаваў пройгрыш галоўны трэнер жлобінскага ХК «Металург» **Аляксандр Гаўрылёнак**:

– Сёння спадабалася гульня каманды ўсім: характарам, самааддачай, гулялі ад пачатку да канца без перападаў. Тое, што не ўдалося сёння выйграць, гэта, канешне, не галоўнае. Галоўнае, што каманда, якая прыехала ў тры звяны, 16 чалавек, аддала ўсе сілы, каб зрабіць вынік.

Каманда займае чацверты радок з васьмі турнірнай табліцы.

**Паводле прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».**

## Як разыгралі трэці тур па міні-футболе

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

У выхадныя прайшлі гульні трэцяга тура чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе.

У групе «А» ашмянская каманда займае апошні, шосты, радок турнірнай табліцы.

Смаргонскія «Мядзведзі» набылі тры ачкі і размясціліся на чацвертым радку турнірнай табліцы.

Астравецкі «Саюз» зарабіў тры ачкі і займае трэці радок турнірнай табліцы.

Лідарам групы застаецца каманда «Ліда».

**Паводле Гродзенскай гарадской федэрацыі футбола.**



Фота забяспечана Віталем КАЧАТКОВЫМ.
Вокладка кнігі «Мат за адзін ход».


Фота забяспечана Ганнай СУШКО.
Андрэй Сушко шчыра палюбіў шахматы.

# Як шахматы робяць дзяцей больш кемлівымі

**Маладзечанец Віталь Качаткоў мае ўжо другую кнігу, якая вучыць шахматам. «Мат за адзін ход» і «Тактыка для пачынаючых чэмпіёнаў» – важныя падручнікі для юных спартсменаў.**

Кнігі складзены з шэрагу задачак, на якіх няма нічога лішняга – толькі канкрэтная гульнявая сітуацыя, якую трэба вырашыць. Яны будуць зразумелыя ўсім пачынаючым шахматыстам. А развіваюць і навык тактыкі, і логіку. Калі трапілася задачка, якая кусаецца і не паддаецца, – нічога страшнага. Можна падгледзець адказ і разабраць яе. Каб зразумець прынцып хадоў і атрымаць яшчэ адзін спосаб абыграць саперніка.

Зборнікі ідуць ад самых простых задачак да ўсё больш складаных. Хаця разбіраць іх можна і з любога моманту. Спачатку расстаўляйце фігуры па дошцы, як на дыяграме. Рухайце фігуры, шукайце рашэнне. Пасля вы зможаце рашаць задачкі адразу ў кніжцы.

Лепш за ўсё рашаць задачы перад гульнёй. Не лянуйцеся і трэніруйцеся кожны дзень. 5-10 хвілін – цудоўная размінка. «Мат за адзін ход» рашаюць нават у ЗША. Таму наступную кнігу Качаткоў зрабіў двухмоўнай.

Асаблівa майстар спорту па шахматах рэкамендуе займацца шахматамі бабулям і дзядулям разам з унукамі. Каралеўская гульня трымае ў тонусе мозг і прадухіляе ўзроставыя змяненні.

Калі бавіць час за гульнёй, вы аднчасова даяце дзіцяці карысны навык і прыемныя ўспаміны пра цудоўны час разам. Няхай яны на ўсё жыццё запомняць павучальныя і вясёлыя спаборніцтвы з любімым дзядам ці бабуляй.

### Стала лепш з матэматыкай

Каб даведацца, як шахматы ўплываюць на маладых маладзечанскіх шахматыстаў, мы распыталі ў іх бацькоў.

Маладзечанка **Ганна Сушко** расказала пра свайго малодшага брата **Андрэя**, які займаецца шахматамі. Хлопчыку дзесяць год.

– Брат займаецца ў шахматнай школе чацверты год. Яму вельмі падабаецца. Я лічу, што занятак шахматамі стаў для яго вельмі карысным. Ён стаў больш сабраным і адказным. Гэтак жа шахматы развіваюць лагічнае мысленне, бо трэба выбраць, які ход лепш зрабіць і прадумаць, што за ім адбудзецца.

> **Навык лагічна мысліць адлюстроўваецца ў поспехах па матэматыцы. Гэтак жа шахматы выпрацоўваюць уседлівасць і цярплівасць.**

Андрэй вельмі любіць гуляць з татам, і часта яго абыгрывае. Абыгрывае і дзеда. Развіваць навыкі дапамагаюць задачкі па шахматах. Хлопчык іх рашае, увогуле мае шмат кніг пра шахматы. Вельмі падабаецца самавучыцель «Гуляй лепш, чым тата!».

### Ужо абыгрывае тату

Ці дапамаглі шахматы развіваць сына, падзялілася маладзечанка **Вікторыя**:

– Мы ходзім, але не так часта, як хацелася б, толькі раз на тыдзень. Безумоўна, шахматы – гэта выдатна для развіцця дзіцяці. Тым больш ён сам захацеў, а мы падтрымалі жаданне. Па логіцы стаў больш кемлівым. Дома абыгрывае тату, хаця ён гуляе добра. Я аматар, то мяне абыгрывае вельмі часта. Рашаем задачкі, дзе трэба зрабіць мат за два ці тры хады.

Маладзечанка **Вольга** расказала, што пачала вадзіць сына на шахматы, калі яму не было і чатырох год. Вывучылі назвы фігур і хто як ходзіць. Сын актыўны, з ім трэба было займацца і гуляць індывідуальна, а такой магчымасці не было – нарадзілася другое дзіця. Таму перасталі хадзіць.

**Косціку** будзе шэсць год. І мама разважае над тым, што для яго абраць:

– Я задумвалася, што важней – шахматы ці музыка? Нядаўна чытала пра навыкі, патрэбныя ў 21 стагоддзі. Адным з іх было крытычнае мысленне. А крытычнае мысленне – гэта логіка і разважанне.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота забяспечана Віталем КАЧАТКОВЫМ.
Вокладка кнігі «Тактыка для пачынаючых чэмпіёнаў».



Фота забяспечана Ганнай СУШКО.
Калекцыя кніг пра шахматы 10-гадовага маладзечанца Андрэя Сушко.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Асоба, якая вядзе справаводства, канцылярыю арганізацыі або перапіску і справы прыватнай асобы.
5. Арэх з малаком.
6. Адна з чатырох пор года.
8. Гэты фрукт узарвецца, калі пагрэць у мікрахвалёўцы.
10. Дзед Вялікага князя Літоўскага і Караля Польскага Аляксандра Казіміравіча, што правіў да 1506 года.
14. Складана паверыць, але ў 21 стагоддзі ёсць некалькі народаў, якія жывуць першабытным ладам. Сентынельцы ў Бенгальскім заліве карыстаюцца коп'ямі і лукамі, не ўмеюць здабываць агонь і вельмі агрэсіўна рэагуюць на чужакоў. Калі вучоныя спрабавалі наладзіць з імі кантакт, то даставілі пасылку з некалькімі прадметамі. Какосы жыхары з'елі, свінню забілі і закапалі. Закапалі і яшчэ адзін прадмет, прызначаны забаўляць дзяцей. Які?
15. Нарвежскія дактары раяць на тры дні даваць меншы адпачынак тым, хто робіць гэта. Таму што гэты працэс часта адцягвае ад працы, таму іншыя работнікі, якія гэтага не робяць, павінны мець больш працяглы адпачынак.
16. Страва, якая стала цэнтрам аднаго з апавяданняў Змітрака Бядулі.
18. Форма, крой.
21. Рыгор Барадулін: У абшары наваколным Над папарам, лугам, полем ... тчэ мяккі змрок. Кожную сняжынку тую Кружыць, туліць і цалуе Весялун-вятрок.
22. Роўнастаронні прамавугольнік.
23. Самы папулярны зімовы напой у нашых беларускіх продкаў, якім любілі саграваცца.
24. Імя Царэўны-жабы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Прадукт няпоўнага згарання паліва, які чорным налётам асядае ў комінах.
3. Ганарлівыя адносіны.
4. Насякомае атрада прастакрылых, якое трэннем крылаў утварае стракатанне.
7. Кіраўнік аднаго банка ў Куала-Лампур абраў незвычайнага вартаўніка сейфа. Усё закончылася трагедыяй, таму што ахоўнікам была менавіта яна.
8. Гэты элемент снежнай бабе дадалі савецкія мультыплікатары ў 1955 годзе.
9. Здольнасць жывых істот напружаннем мышц рабіць фізічныя рухі, дзеянні.
11. Афарбоўка.
12. Заканамернае, рэгулярнае кола з'яў, дзеянняў, працэсаў.
13. Гэты фрукт карысны і заражае аптымізмам. Але соку з яго вы не знойдзеце. Калі яго выціскаць, атрымліваецца зусім мала, усе карысныя рэчывы губляюцца, а смак даволі спецыфічны.
15. Даведачнае выданне ў выглядзе кнігі, брашуры ці асобных лістоў друкаванага матэрыялу, якое змяшчае паслядоўны пералік дзён, тыдняў і месяцаў года з абазначэннем памятных і святочных дат, звычайна з тэкстам.
17. Той, хто непасрэдна прысутнічаў пры здарэнні, падзеі.
19. Сіла, якая дзейнічае на адзінку плошчы перпендыкулярна да паверхні цела.
20. Вязкая маса рознай кансістэнцыі, якая атрымліваецца пры змешванні мукі з вадкасцю.
22. Рэзкі пералом, пераходны стан, абвастрэнне становішча.
25. Прадмет, прызначаны для гульні дзецям.

## Адказы на крыжаванку з №49

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Павідла 4. Закат 6. Юшка 7. Модуль 10. Фільм 12. Сахалін 13. Чэрап 14. Акулы 15. Чынш 16. Увогуле 20. Увага 22. Крамола 24. Фальклор 25. Экватар

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Старт 3. Падкова 5. Пакута 8. Частка 9. Соль 11. Талерку 13. Чорны 15. Чмель 17. Узгорак 18. Вушы 19. Фантазія 21. Лак 23. Арарат 26. Панцыр





## ГАРАСКОП 14-20 СНЕЖНЯ

**АВЕН.** Вы цвёрда стаіце на нагах. Але вам хочацца чагосьці іншага. Каб зразумець, чаго менавіта, перавярніце сваё жыццё хоць бы на дзень або імгненне. Дазвольце сабе паступіць не так, як звычайна, і перад вамі адкрыецца новы шлях, новы сэнс для жыцця.

**ЦЯЛЕЦ.** Вы стварылі спрыяльную атмасферу і можаце адчуваць сябе уладаром сітуацыі, але працягвайце рухацца далей, развівацца.

**БЛІЗНЯТЫ.** Магчымыя невялікія канфлікты і расходаванне сіл па дробязях. З-за гэтага справы не будуць рухацца з месца, а вось сілы пакінуць вельмі хутка. Але павышаецца ваша эмацыйнасць і магчымасць кіраваць сваімі пачуццямі, што дазволіць вам выйсці на патрэбны шлях.

**РАК.** У гэты час добра ідуць новыя справы, але для гэтага вам трэба будзе дзейнічаць не стандартна. Ёсць магчымасць з сітуацыі, якая склалася, зрабіць незвычайны крок і тым самым злавіць два, а то і тры зайцы адначасова. Прыслухоўвайцеся да сабе і не бойцеся эксперыментаваць.

**ЛЕЎ.** У вас можа паўстаць некалькі ідэй, якія дазволяць вам дасягнуць поспеху. Калі вы адчуеце, што зусім не ведаеце, як паступіць далей, – вазьміце перапынак, пабудзьце ў адзіноце, і вы знойдзеце патрэбны шлях.

**ДЗЕВА.** Калі ў галаве круціцца шмат розных думак – гэта зусім не значыць, што сярод іх ёсць хоць адна карысная. Будзьце асцярожныя ў выбары партнёраў, бо ад некаторых шкоды будзе больш, чым карысці. І навучыцеся стрымліваць сябе, інакш вы рызыкуеце спудзіць нават самага прыдатнага для вашай справы партнёра.

**ШАЛІ.** Для вас дні будуць паспяховымі ў любым пачынанні. Яны будуць актыўныя, але большую частку працы вы зробіце чужымі рукамі.

**СКАРПІЁН.** З'яўляецца магчымасць здабыць свет у душы, гэта значыць, прывесці сябе да такога становішча, калі ніякія знешнія падзеі не змогуць вас знерваваць і выбіць з каляіны. Для гэтага зусім не абавязкова дасягнуць усяго і прарабіць неймаверную працу. Бо спакой – гэта ўнутраны стан, а не знешні атрыбут.

**СТРАЛЕЦ.** Вы цяпер напрацуеце шэраг неабходных навыкаў, якія пасля дазволяць вам супраціўляцца любой сітуацыі і любым нягодам.

**КАЗЯРОГ.** Калі дзейнічаць рашуча, думаць не толькі пра сябе і свае жаданні, то можна з поспехам дасягнуць усяго. Вы адчуеце радасць і напоўненасць ад праведзенай працы. І шчасце будзе доўгім.

**ВАДАЛЕЙ.** Ад вас запатрабуецца сур'ёзная і напружаная праца, каб чагосьці дасягнуць. Хоць вы і стоміцеся, але вынікі вельмі пацешаць. Увогуле, ва ўсіх спраў, пачатых цяпер, вельмі спрыяльная перспектыва. Смела бярыцеся за любое пачынанне.

**РЫБЫ.** Вы ў гармоніі з самім сабой і можаце спакойна атрымліваць асалоду ад жыцця. У гэты час магчымыя розныя любоўныя прыгоды і часовыя захапленні, якія не прынясуць сур'ёзных пачуццяў, але дапоўняць радасную карціну дня.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 4 | | 5 | | 7 |
| | 5 | 9 | 7 | | | | | 4 |
| | 4 | | | 5 | | 6 | | 9 |
| | | 1 | | 8 | | 7 | | |
| 2 | 6 | | | | 4 | | | 8 |
| 8 | | | | | | 3 | | 2 |
| 5 | 1 | | | | | | | 3 |
| | | | 6 | | | | 2 | 1 |
| 9 | | | | 3 | 1 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

**2018 год адлічвае апошнія тыдні. Хтосьці падводзіць вынікі, хтосьці закупляе гарошак і кукурузу да навагодняга стала. А мы прыгадаем самыя яркія і запамінальныя публікацыі «Рэгіянальнай газеты». Пра што мы пісалі ў 2018, чытайце ў наступным нумары.**



## Уваходзьце ў Новы год са старымі сябрамі



### Падпісацца на «РГ» можна:

**праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

**на пошце**

**праз паштальёна**

**праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 15 снежня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 6 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -19,7°С у 2009 годзе
Максімальная тэмпература +9,1°С у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 6,7 мм у 2000 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Маладзечну прысвоілі званне «Горад, дружалюбны да дзяцей»

МАЛАДЗЕЧНА

У Беларусі для глабальнай ініцыятывы ЮНІСЕФ распрацавалі адзіную для ўсіх гарадоў сістэму маніторынгу становішча дзяцей. У яе аснове – індэкс дружалюбнасці горада, для вымярэння якога выкарыстоўваецца 37 параметраў, якія ахопліваюць сем абласцей жыццезабеспячэння дзіцяці.

Гэта і ўдзел у грамадскім жыцці, і прынцыпы рашэнняў, і жылое асяроддзе, і бяспека дзяцей у горадзе, а таксама адукацыя і развіццё, вольны час і культура, дапамога ў цяжкай жыццёвай сітуацыі.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

## На вілейскай плошчы бліжэй да святаў з'явіцца свінка

ВІЛЕЙКА

Цэнтральную плошчу Вілейкі ўжо пачалі ўпрыгожваць да Новага года.

11 снежня тут паставілі 14-метровую елку. У бліжэйшы час яе ўпрыгожаць.

У Вілейскай ЖКГ распавялі, што ўпрыгожанне плошчы будзе амаль, як летась. Адзінае – ля ёлкі паставяць сімвал года – свінку, якая будзе ззяць у цёмны час.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзіяна Арбеніна марыць выступіць з канцэртам у Валожыне

Спявачка, музыкант, лідар рок-гурта «Начныя Снайперы» **Дзіяна Арбеніна** марыць выступіць у Валожыне. Пра гэта яна распавяла падчас «Залатога грамафона» ў Мінску.

«Самая запаветная мара пра Беларусь, вядома, сыграць у Валожыне, у горадзе, дзе я нарадзілася, дзе мы ні разу не выступалі з канцэртам. Я думаю, што, можа, калі-небудзь мы прыедзем», – сказала спявачка.

Дзіяна Арбеніна прызналася, што кожнае выступленне ў Мінску для яе – як справаздачны канцэрт, як калісьці гэта было ў музычнай школе. «Выдатна, што вы любіце гэту музыку», – звярнулася яна да гледачоў.

**Паводле БелТА.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Ці гатовыя вы дапамагаць бадзяжным жывёлам?



**Вольга Жыляева, пенсіянерка, Маладзечна:**

– Спачуваю бадзяжным жывёлам. Першы мой сабака быў бадзяжны, пражыў са мной 13 гадоў. Слёзы цяклі ручаём, калі паміраў. Джэсі прывяла сем шчанюкоў, я раздавала іх бясплатна на рынку, прасіла толькі не крыўдзіць і не выкідаць.



**Мікалай Камінскі, пенсіянер, Маладзечна:**

– Любыя бацькі будуць абараняць бадзяжных жывёл, пакуль тыя не пакусаюць іх дзяцей.



**Наталля Леган, вайсковец, Маладзечна:**

– Увогуле люблю жывёл, стараюся падкормліваць іх і ў горадзе. Вельмі шкадую, бо ва ўсіх іх «бедах» вінаватыя мы, людзі, якія ўзялі дадому, нагуляліся і выкінулі.



**Дзяніс Сырэц, будаўнік, Маладзечна:**

– Так, бо мне іх шкада. Перыядычна падкормліваем кацянят, ходзім у парк кідаць хлеб рыбкам. З малодшай дачкой пастаянна кормім семкамі галубоў. Жывёлы на вуліцы мне не перашкаджаюць, наадварот, хочацца з дачушкай падысці і пагладзіць іх.



**Алеся Пярова, даглядае чатырохгадовага сына, Маладзечна:**

– На вуліцах шмат бяздомных жывёл, гэта не падабаецца. Не таму, што не люблю жывёл, – у мяне маленькае дзіця. Бадзяжныя жывёлы небяспечныя для здароўя і жыцця. Супраць падкормлівання, падтрымліваю стэрылізацыю і бяздомных, і хатніх жывёл.



**Алена Качан, дырэктар швейнага прадпрыемства, Вілейка:**

– І гатовая, і дапамагаю па меры магчымасці. Іх досыць шмат на вуліцах, але мне не замінаюць. Праблема бадзяжных жывёл з-за безадказнасці гаспадароў, якія ўзялі адказнасць за жывёлу. Але ў нейкі момант не змаглі яе несці, і жывёла апынулася на вуліцы.



**Андрэй Жыгальскі, прадавец, Маладзечна:**

– Дапамагаю не заўсёды, але калі магу. Бо шкада неяк іх, дзе яны яду дастануць у халодныя дні. Кожны дзень, выходзячы з дому, бачу на вуліцы як мінімум аднаго бадзяжнага ката.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№50 (1233) 14.12.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1289. Падпісана ў друк у 9.00 13.12.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.